

# Беларус

**Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!**
Францішак Багушэвіч (1840-1900)

№ 375 Лістапад 1990
Год выд. XXXIX

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00

## ЗАЯВА КІРАЎНІЦТВА І САКРАТАРЫЯТУ БНФ

73 гады камуністычнай улады абярнуліся для Беларусі пеклам Курапатаў і калектывізацыі, экалягічнай катастрофай і Чарнобыльскім выбухам, выкараненьнем роднай мовы і разбурэньнем народнай культуры. Зараз наша Бацькаўшчына — у стане цяжкага эканамічнага, палітычнага і духоўнага крызісу, улада-ж, як і раней, у руках КПСС-КПБ. Інтарэсы партапарату прадстаўляе большасьць дэпутатаў Вярхоўнага Савету, якая зацьвердзіла Урад рэспублікі складзены выключна з былой партыйнай намэнклятуры. Што-ж зрабіла кампартыя ў Вярхоўным Савеце, ва ўрадзе, каб рэабілітавацца перад народам, наталіць спажывецкі рынак, пабудаваць дэмакратычнае грамадзтва?

Дэклярацыйны сувэрэнітэт Беларусі застаецца папяровым. Нашу Бацькаўшчыну па-ранейшаму рабуюць «саюзныя» ведамствы, а беларускія хлопцы ў форме гінуць у чужых гарах. Ня прыняты ніводзін закон, які-б наблізіў Беларусь да здаровай эканомікі і дабрабыту, зямля так і не аддадзена сялянам. Людзей не ратуюць ад Чарнобыля. Ня выконваецца Закон аб мовах. А тым часам камуністычныя апаратчыкі ліхаманкава ствараюць акцыянерныя, каапэратыўныя, сумесныя прадпрыемствы і банкі, займаюцца камэрцыйнай дзейнасьцю, перакачваюць дзяржаўныя грошы ў партыйную і прыватную кішэню і рабуюць народ. Страшэнны выбух спэкуляцыі, рост цэнаў — не выпадковыя. Гэта вынік бюракратычнага пераразьмеркаваньня маёмасьці, вынік камуністычнай «перабудовы».

Нешматлікая дэмакратычная апазыцыя БНФ спрабавала наладзіць канструктыўную працу Вярхоўнага Савету і прапанавала пакет законапраектаў, якія, калі-б былі прынятыя, маглі-б зрушыць сытуацыю ў бок паляпшэньня. Кампартыя-ж аказалася інтэлектуальна бясплоднай; яна не прапанавала Вярхоўнаму Савету *ніводнага* ўдалага законапраекту. Аднак па ўказаньнях ЦК КПБ рэакцыйная большасьць Савету паралізавала яго працу, былі зьнішчаны ўсе спробы канструктыўнай дзейнасьці, апошняя сэсія Вярхоўнага Савету прайшла марна. Вось чаго каштуюць іх фарысейскія заклікі да супрацоўніцтва.

Праваахоўныя, судовыя органы, служба дзяржбясьпекі, асноўныя сродкі масавай інфармацыі па-ранейшаму выконваюць ролю памагатых партыйных функцыянераў. Гэта выразна засьветчылі падзеі 7 лістапада. Нягледзячы на просьбы грамадзкіх аб'яднаньняў і зварот Менскага гарсавету не праводзіць у крызісны час сьвяткаваньняў даты прыходу камуністаў да ўлады, функцыянеры зь менскага гаркама КПБ настаялі на сваім. У выніку — ледзь не адбылося самаспаленьне двух чалавек на плошчы, якія хацелі сабе зямлі, але не хацелі танкаў на ёй. У выніку — пасьля афіцыйнага дзейства з удзелам прывезенай на аўтобусах групы партыйных актывістаў прайшла шматтысячная антыкамуністычная дэманстрацыя і мітынг памяці ахвяраў камунізму.

Шэсьце і мітынг прайшлі спакойна і арганізавана, што характэрна для акцый Беларускага Народнага Фронту. Інцыдэнт ля помніка У. І. Леніна, які выклікаў блізкую да істэрыі рэакцыю ЦК КПБ, быў справакаваны дзеяньнямі ОМОНа, вынікаў зь несамастойнасьці міліцэйскага кіраўніцтва. Знаходзячыся пад уплывам катэгарычнага загаду з боку ЦК ня пускаць «экстрэмістаў» да помніка, яны ня выканалі просьбы народных дэпутатаў БССР прапусьціць да манумэнта дэлегацыю зь 10 чалавек і тым самым парушылі закон, не падпарадкаваўшыся законным прадстаўнікам улады. Больш таго, правакацыйныя дзеяньні адзьдзелаў ОМОН, якія пачалі штурхаць і цясьніць людзей, абурылі народ і ён усяроўна ўсклаў да помніка Леніна сымбалі створанай ім дзяржаўнай сыстэмы і ідэялёгіі — пудзіла энкавэдзіста, атрыбутыку вязьняў Гулага, голаду, рэпрэсій ды паёк жыхароў Чарнобыльскай зоны. Мы шкадуем, што ў выніку справакаванай ОМОНам валтузьні, і ўдзельнікамі мітынгу і «ахоўнікамі парадку» былі раськіданы кветкі на пастамэньце і з разуменьнем адзначаем стрыманыя і годныя паводзіны большасьці шэраговых міліцыянераў.

Але што камуністычным правадырам факты, засьветчаныя відэастужкаю і дзесяткамі тысяч вачэй? Зноў пачынаецца кампанія дэзынфармацыі, паклёпу, запалохваньня людзей, зноў народ пераконваюць у вечнасьці камуністычных ідэалаў ды ідалаў. Па загадзе з ЦК КПБ узбуджаецца крымінальная справа супраць арганізатараў мітынгу, хоць узбудзіць яе даўно трэба супраць самога ЦК, які не зьвяртаючы ўвагі ні на свой народ ні на вызваленчую рэвалюцыю, якая ахапіла ўсю Усходнюю Эўропу, і надалей чапляецца за сваю ўзурпаваную ў народу ўладу ды свае прывілеі.

Мы патрабуем:

— роспуску КПБ-КПСС як арганізацыі, якая ўчыніла генацыд свайго народу, прывяла Беларусь да мяжы катастрофы, як арганізацыі, што стала на шляху Беларусі да адраджэньня і паратунку;

— канфіскацыі маёмасьці КПБ-КПСС як незаконна забранай у народа;

— міжнароднага суда над камунізмам — бесчалавечнай і злачыннай ідэялёгіяй.

Заклікаем усіх сумленных людзей, што дзеля розных жыцьцёвых прычынаў, памылак і аблудаў, апынуліся ў шэрагах КПБ-КПСС, пакінуць гэтую антынародную арганізацыю, каб з палёгкай паглядзець у вочы свайму народу і свабодна служыць яму.

**Зянон Пазьняк**

## ШЛЯХ У БУДУЧЫНЮ

**Ад Рэдакцыі:** *Гэтае інтэрв'ю зь Зянонам Пазьняком, старшынём Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і лідэрам Дэмакратычнае апазыцыі ў Вярхоўным Савеце БССР, было замоўлена і зроблена менскай газэтай «Зная юности», але пасьля газэта адмовілася яго зьмясьціць.*



*Зянон Пазьняк*

**Пытаньне:** Ці ёсьць, на Вашую думку, у беларускага ўраду абгрунтаваная, пасьлядоўная эканамічная канцэпцыя? Якія недахопы Вы адзначылі-б у праграме і практычнай дзейнасьці прэм'ера Кебіча і ягонае «каманды»?

**Адказ:** Канцэпцыі ў ураду няма. Грунтоўна і пасьлядоўна пра яе там ніхто ня думаў і ня думае. Гэта камуністы — людзі з сыстэмы, заснаванай на псыхалёгіі нацыянальнага нігілізму, якая нішчыць беларускі народ, ягоную культуру, мову, эканоміку, навакольнае асяродзьдзе, здароўе, будучыню. Гэта людзі старога апарату і старых адміністрацыйных уяўленьняў. Апрача таго, кабінэт міністраў выбіраўся па старой адміністрацыйна-каляніяльнай схеме. Дэпутаты фракцыі Народнага Фронту адмовіліся ўдзельнічаць у галасаваньні пры фармаваньні гэтага ўраду, не жадаючы браць на сябе адказнасьць за ягоныя заведамае банкруцтва.

Мы не памыліліся. Урад бязьдзейнічаў гэтыя два месяцы пасьля першае сэсіі. Члены яго разьехаліся па паўдзённых курортах, тымчасам як Беларусь коціцца ў прорву, а ейны народ у жыбрацтва ў выніку імклівых палітычных і эканамічных працэсаў ува ўсіх суседніх рэспубліках, урады якіх, дарэчы, інтэнсіўна працуюць. Не падпісаныя неабходныя эканамічныя ўмовы аб гандлі, пастаўках і супрацоўніцтве зь іншымі краінамі, нават зь Летувой і Украінай!

Адбылося тое, што было відавочным спачатку. Урад засьветчыў сваю бездапаможнасьць, залежнасьць ад ЦК КПБ і ягонае антынароднае самагубнае палітыкі.

28 жніўня Дэпутацкая апазыцыя БНФ прыйшла да высновы аб неабходнасьці скліканьня пазачарговае сэсіі Вярхоўнага Савету на пачатку кастрычніка і ўзялася за распрацоўваньне альтэрнатыўных законапраектаў. Наша думка была падтрыманая шмат якімі іншымі дэпутатамі. Сэсія пачнецца 9-га кастрычніка. Але пастанова аб скліканьні была выкліканая перш за ўсё апераджальным ходам разгляду эканамічнае рэформы ў СССР і ўказаньнямі з Масквы. Тэрмінова на аснове эканамічных канцэпцыяў Шаталіна і Рыжкова-Гарбачова робіцца беларуская, «свая» канцэпцыя. Тэкст яе я ўжо трымаў у руках і коратка азнаёміўся. Як і трэба было чакаць, здарылася самае горшае, што павінна было здарыцца. Праект эклектычны.

Як ведама, спалучэньне адміністрацыйна-разьмеркавальнай і рыначнай сыстэмаў прыводзіць да разьвіцьця нястрымнай спэкуляцыі. Што мы, дарэчы, і назіраем і да чаго вось ужо пяць гадоў коцяцца перабудовачныя стагнаты, дэбатуючы «шляхі пераходу да рынку». Але самае сумнае тое, што кампілятары «сваёй» канцэпцыі зыходзяць не з разьвіцьця свабоднае сувэрэннае і незалежнае беларускае дзяржавы, а з каляніяльна інкарпараванай у СССР «рэспублікі».

Гэткая работа зусім бескарысная і шкодная. СССР на шляху заканамернага гістарычнага паміраньня й развалу. Гэты працэс карысны й аптымістычны, бо дае магчымасьць адрадзіцца чалавеку і свабодным нацыянальным дзяржавам, стварыць нармальныя цывілізаваныя грамадзтвы і дачыненьні між імі. Толькі самагубцы свайго народу могуць плысьці цяпер супраць гэтагае адраджэнскае плыні, супраць развалу апошняе і найбольш жорсткае імпэрыі сьвету. Спараджаючы загадзя асуджаныя эклектычна-каляніяльныя канцэпцыі, іхныя аўтары ізноў прымушаюць Беларусь траціць час, пры гэтым на вырашальнай дыстанцыі.

Я ні на часіну не сумляюся ў неабходнасьці адстаўкі нядаўна зацьверджанага Савету Міністраў БССР, але разумею таксама бескарыснасьць гэтага дзеяньня да таго часу, пакуль на ўрад будзе мець уплыў і фактычна кіраваць ім кіраўніцтва ЦК КПБ — арганізацыя, вінаватая ўва ўсіх бедах нашага беларускага народу і ўва ўсёй прадажніцкай бяздарнасьці нашае ўрадавае палітыкі. Цяпер мала дамагацца расфармаваньня парткамаў і партарганізацыяў на месцы працы. Рэальна паўстае пытаньне аб роспуску КПСС-КПБ як атыбеларускай, антыгуманнай арганізацыі.

**Пытаньне:** Нам ведама, што працоўныя групы парляманцкай апазыцыі інтэнсыўна працуюць цяпер над пакетам жыцьцёва важных для Беларусі законапраектаў. Ці нельга было-б расказаць пра гэта больш падрабязна?

**Адказ:** БССР адзіная рэспубліка, якая, быццам рыхтуючыся пераходзіць да

*(Працяг на 3-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# У СПРАВЕ ВЫЕЗДУ З СССР

**Адказ на некаторыя лісты да нас**

Рэдакцыя «Беларуса» дастае апошнім часам шмат лістоў ад суродзічаў зь Беларусі (часамі з Польшчы, а адзін ліст прыйшоў з Грэцыі) з просьбамі дапамагчы выехаць на Захад — у ЗША, Канаду, Аўстралію. Лістоў прыходзіць гэтулькі, што сьціплых сілаў рэдакцыі «Беларуса» не стае, каб адказваць на іх індывідуальна. Таму адказваем калектыўна праз газэту.

Фармальнасьці выезду на Захад трэба пачынаць, зварачаючыся перш-наперш у пасольства тае дзяржавы, у якую хочаш выехаць. Што газэта «Беларус» можа зрабіць у дадзенай сытуацыі, гэта — падаць на сваіх старонках прозьвішча асобы або, сям'і, якая дастала ўжо дазвол на ўезд у той ці іншы край і, ня маючы знаёмых ці сваякоў у гэным краі, хацела-б навязаць лучнасьць са сваймі суродзічамі. Газэта «Беларус» можа апублікаваць тады пра такое жаданьне. Гэтак мы зрабілі з просьбай сп-ні Галіны Арцёменкі з Гомеля («Б-с» № 369), спадзяючыся, што знойдуцца добрыя ініцыятыўныя людзі, якія дапамогуць Арцёменкам, бо пасольства ЗША дало ім дазвол на ўезд у Амэрыку.

Мы ў рэдакцыі «Беларуса» добра разумеем цяжкасьці, у якіх нашым суродзічам даводзіцца шукаць магчымасьці выезду з СССР, глыбака спачуваем усім з прычыны Чарнобыля ды іншых цяжкасьцяў і робім, што можам, каб прыйсьці з дапамогай. На жаль, фармальнасьці выезду **ня ў нашай кампэтэнцыі.** Іх трэба пачынаць ад кантакту з пасольствам краіны, куды хочаш выехаць. **Рэдакцыя «Беларуса»**

### АМЭРЫКА ПРЫЙМАЕ СПЭЦЫЯЛІСТАЎ

Паводля новага іміграцыйнага закону, які мевся быць падпісаны Прэзыдэнтам Бушам, Злучаныя Штаты будуць прымаць больш спэцыялістаў, асабліва камп'ютэршчыкаў і прафэсіяналаў аховы здароўя, у тым ліку санітарак. Агульны гадавы лік імігрантаў будзе павялічаны зь 500 тысячаў да 700 тысячаў, а ў межах яго катэгорыя спэцыялістаў — зь 55 тыс. да 140 тыс. («Нью-Ёрк Таймс», 5.XI.90)

### *АРЫЕНТАЦЫЯ МАЛАДЫХ НА ЗАХОДНІЯ СРОДКІ ІНФАРМАЦЫІ*

Абмяркоўваючы сацыялягічнае дасьледаваньне сучаснай беларускай моладзі, часапіс «Коммунист Белоруссии» (№ 8, 1990) піша:

«На жаль, нават і сёньня, ува ўмовах росту галоснасьці й дэмакратызацыі, калі сродкі масавай інфармацыі дасталі справядлівы назоў 'сілаў хуткага рэагаваньня перабудовы', захоўваецца тэндэнцыя, пры якой частка моладзі выходзіць са сфэры іхнага ўплыву і актыўна ўключаецца ў сфэру ўплыву заходняга радыё. За гады перабудовы, адзначае вучоны-сацыёляг О. Т. Манаеў, стаўленьне моладзі да друку, радыё, тэлебачаньня ў цэлым ня толькі не палепшылася, але нават пагоршылася: колькасьць тых, хто звычайна ці часамі не згаджаецца зь імі ўзрасла зь 70,9 да 84 працэнтаў, а колькасьць тых, хто звычайна ці часамі не давярае ім — з 29,3 да 50,9 працэнта». (б.26)

У тым-жа артыкуле ёсьць і гэткае прызнаньне:

«Бальшыня мясцовых газэтаў, радыё й тэлебачаньне працягваюць функцыянаваць у духу ранейшых стэрэатыпаў». (б.27)

Што да моладзі, якая «ўключаная ў сфэру заходняга радыё», дык яна, паводля «КБ», «па цэлым шэрагу парамэтраў характарызуецца вельмі высокім узроўнем актыўнасьці й самасьведамасьці». (б.27)

## РЫМСКАЯ АДОЗВА

Вядучыя расейскія пісьменьнікі й культурныя дзеячы, савецкія грамадзяне і эмігранты, а таксама прадстаўнікі некаторых іншых нацыянальнасьцяў СССР, у тым ліку й беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў, правялі ў Рыме ў сярэдзіне кастрычніка сёлета канфэрэнцыю, на якую паслалі свае прывітаньні Міхаіл Гарбачоў і Барыс Ельцын. Удзельнікі канфэрэнцыі падпісалі адозву, у якой сказана:

Мы, пісьменьнікі і грамадзкія дзеячы, сабраліся ў Рыме на канфэрэнцыю 'Нацыянальныя пытаньні ў СССР: абнаўленьне ці грамадзянская вайна?' у той мамэнт, калі закончваецца існаваньне аднае зь вялізарнейшых імпэрыяў у гісторыі чалавецтва і на ейнай тэрыторыі ўзьнікаюць новыя дзяржаўныя сфармаваньні. Мы па-рознаму тлумачым і ацэньваем гэты працэс, але ён ужо неабарачальны. Гутарка сёньня можа йсьці не аб прадухіленьні ці кансэрвацыі таго, што адбываецца, а толькі аб праўным, дэмакратычным і чалавечным абладжаньні канфліктаў — нацыянальных, сацыяльных, тэрытарыяльных ды іншых, — што ўзьнікаюць у ходзе гэтага працэсу.

Мы ўважаем, што аснова разьвязаньня нацыянальнага пытаньня ў СССР, як і ў цэлым сьвеце, гэта — рэальнае права на самавызначэньне шляхам рэфэрэндуму або пастановы свабодна выбранага парляманту. Незалежна ад таго ці будзе рэалізавацца гэтае права ў выглядзе паасобных рэспублік ці захаваньня якімі-небудзь зь іх тых або іншых формаў дзяржаўнага адзінства, у любым выпадку яно прадугледжвае культурную аўтаномію і грамадзянскія правы ўсіх нацыянальных мяншыняў.

З другога боку, сучаснае грамадзкае разьвіцьцё ставарае патрэбу і ўмовы эканамічнай інтэграцыі розных краін на аснове раўнапраўя, сувэрэннасьці і пашаны ўзаемных інтарэсаў, як паказвае прыклад Эўрапейскае супольнасьці. Мы лічым пажаданым, каб дзяржавы, якія ўзьнікнуць у выніку гэтага працэсу, дабраахвотна наладжвалі эканамічнае супрацоўніцтва.

Усё гэта, на наш пагляд, ня можа быць зьдзейсьнена бяз поўнай і канчальнай ліквідацыі таталітарнае сыстэмы і без вызваленьня магчымасьцяў нацыянальна-гістарычнае творчасьці народаў сучаснага СССР. Усё гэта таксама ня можа быць зьдзейсьнена без адмовы ад імпэрскага, таталітарнага мысьленьня як у цэлым у краіне, гэтак і ў рэспубліках, ад якога-б там ні было ўжываньня гвалту — як фізычнага, гэтак і духовага. У тым ліку — без адмовы ад распальваньня нацыянальнай варажнечы, міжрэлігійнай нецярпімасьці, антысэмітызму, русафобіі, ненавісьці да «іншародцаў» і шавінізму любога характару».

## АНТЫЎРАДАВАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў МЕНСКУ




Амэрыканскія газэты падалі пра антыўрадавыя, антыкамуністычныя дэманстрацыі па гардох СССР у дзень 73-х угодкаў Кастрычніцкае рэвалюцыі, называючы й сталіцу Беларусі. «Нью-Ёрк Таймс» (8.XI) коратка згадаў пра «сутычкі» ў Беларусі. Газэта-ж «Лёс-Анджэлес Таймс» (8.XI) напісала:

«У Менску, сталіцы Беларусі, сотні актывістаў з Народнага Фронту былі адагнаныя міліцыяй у часе спробы прабіцца да помніка Леніну, каб паклясьці там напамін пра лягеры Гулагу, дзе аднойчы сядзелі масы савецкіх палітвязьняў, паводле паведамленьня савецкага тэлебачаньня».

### АБ'ЯДНАНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ БЕЛАРУСІ

Як падало Маскоўскае радыё, 3-га, 4-га й 5-га лістапада ў Менску праходзіў зьезд дэмакратаў Беларусі. У зьезьдзе ўзялі ўдзел прадстаўнікі шасьцёх партыяў: Лібэральна-дэмакратычнай, Радыкальна-дэмакратычнай, Дэмакратычнай плятформы (камуністы) і іншых. На зьезьдзе заснаваная Аб'яднаная Дэмакратычная Партыя Беларусі. У яе ўвайшлі прадстаўнікі пяцёх партыяў, шостая — рэгіянальная Дэмакратычная партыя з цэнтрам у Гародні — засталася тымчасам у кансультацыйнай сувязі з новай партыяй.

Аб'яднаныя дэмакраты паставілі за мэту пабудаваць у Беларусі дэмакратычнае грамадзтва з прыярытэтам агульналюдзкіх вартасьцяў над клясавымі, плюралізмам ува ўсіх дзялянках грамадзкага жыцьця.




*Цяпер Камуністычная партыя ў СССР пачынае ўсё больш палохаць людзей, якія шарахаюцца ад яе, як ад чорнага дыму атручвальных прадпрыемстваў, пабудаваных пад ейным кіраўніцтвам.*

**Аўген Булава**

### «ЗВАЖАЙ» № 4(60)

Зьмест нумару: А ўлада яшчэ ў руках ворагаў (да ўгодкаў Слуцкага паўстаньня); Мікола Ганько — 19-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі; В. Сянькевіч — У 79-я ўгодкі савецкалетувіскага мірнага дагавору; А. Чобат — Некалькі навінаў з Гародні; К. Акула — Хто зьбіраў на помнік; хроніка; ліст у рэдакцыю ад В. Мартыненкі; зварот Р. Родчанкі да чытачоў «Зважай» (зьбіраньне матар'ялу да вайсковай гісторыі).

Гэты едкі цяжкі дым
Быў калісьці кветкамі,
Што ўпрыгожвалі сабой
Родныя палеткі.

Вось і людзі Беларусі
Дымам гэткім сталі:
Да сваёй у іх радзімы —
Ні любві, ні жалю. —

**Яўген Гучок**

### *ЦІ ПАВАРОЧВАЕЦЦА КАМСАМОЛ БЕЛАРУСІ ТВАРАМ ДА СВАЙГО НАРОДУ?*

У дакумэнце «Праграмныя мэты і асноўныя напракі дзейнасьці ЛКСМБ», прынятым на XXIX-м зьезьдзе мінулага месяца, камсамольская арганізацыя Беларусі заявіла, што яна будзе «ўдзельнічаць у грамадзкіх рухах: за аднаўленьне аб'ектыўнай і гістарычнай праўды аб рэспубліцы і беларускім народзе, па абароне і ахове помнікаў гісторыі і культуры, вяртаньню населеным пунктам, вуліцам, плошчам самабытных назваў, за ўздым і разьвіцьцё нацыянальнай культуры і мастацтва, за адраджэньне народных сьвят, традыцый, абрадаў, промыслаў, сымболікі, усяго, што вызначае нацыянальную самабытнасьць народаў, якія жывуць у Беларусі».

У «Праграмных мэтах» няма ўжо дэклярацыі, што «камсамол — верны памочнік партыі» і пра КПСС наагул ні словам ня згадваецца. (**«Чырвоная зьмена»**, 8.XI.90)

# ШЛЯХ У БУДУЧЫНЮ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

рынку, ня мае законаў і законапраектаў, якія стваралі-б аснову для рыначнае эканамічнае рэформы. Рэч у тым, што ў асяродзьдзі камуністычных кіраўнікоў Рэспублікі ніхто ня зьбіраўся пераходзіць да рынку і ня ўспрыймаў гэтага паважна. Рупіліся аб сьвінакомплексах і пастаўках у Савецкі Саюз. А цяпер, калі навокала ўсе рэспублікі пайшлі далёка наперад, Беларусь, дзякуючы гэткаму «кіраўніцтву», апынулася ля разьбітага карыта. Пэрспэктыва зьбядненьня Беларусі цяпер поўнасьцяй рэальная. Але-ж выратаваць нас можа толькі рынак (зь якім мы спазьніліся) і дзяржаўная незалежнасьць.

Дэпутацкая апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце разумее пагрозу, якая паўстала перад Рэспублікай. Мы вызначылі першачарговыя законапраекты і ўзяліся за іхнае распрацоўваньне. Гэта — законы аб грамадзянстве, аб уласнасьці, аб зямлі, аб банках, аб падатках, аб мясцовым самакіраўніцтве, дэкрэт аб уладзе ды іншыя акты. Ужо гатовыя праекты законаў аб грамадзянстве, аб зямлі, аб банках. Праца йдзе цяжка асабліва дзеля нястачы часу й адсутнасьці дапамогі, належнай дэпутатам у сыстэме Вярхоўнага Савету.

**Пытаньне:** Наколькі праўдападобна, што Вярхоўны Савет прагаласуе за радыкальныя праекты, прапанаваныя апазыцыяй? І, калі ставіць пытаньне шырэй: Вашы прагнозы на выніку недалёкай ужо пазачарговай сэсіі наагул — на пэрспэктывы разьвіцьця эканамічнай і палітычнай сытуацыі? Ці ёсьць эфэктыўная, рэальная альтэрнатыва спаўзаньню ў прорву?

**Адказ:** Урад і камісіі Вярхоўнага Савету цяпер пачалі рыхтаваць свае законапраекты. Натуральна, што за свае праекты яны і будуць галасаваць. Што да нашых прапановаў, дык радыкалізм як тэрмін у дачыненьні да закону тут няўдалы. Мы зыходзім перш за ўсё з аб'ектыўных заканамернасьцяў разьвіцьця эканомікі й грамадзтва ў дэмакратычна свабоднай Беларусі, а не са штучных мёртвых ідэялягічных і палітычных схемаў, у якіх зьнішчалі наша жыцьцё.

Мае прагнозы на выніку пазачарговае сэсіі нясуцешныя. Дакумэнты будуць прынятыя з рознай супеняй эклектыкі. А гэтага ў нашым становішчы дапушчаць нельга. Аднак цяперашняя кансэрватыўная бальшыня ў Вярхоўным Савеце можа дапусьціць.

Што да альтэрнатывы цяпершаняй палітыцы, якая праводзіцца далей, дык яна ёсьць па ўсіх кірунках. Але галоўнае вызначыць асноўнае лучво, за якім шлях да ратунку, дзе неабходна сканцэнтраваць намаганьні. Гэткім лучвом зьяўляецца незалежнасьць Беларусі. Станемся незалежнай, свабоднай дэмакратычнай дзяржавай — будзем жыць, расьці й разьвівацца. Не дасягнем незалежнасьці і свабоды — страцім рэспубліку і зьгінем як народ. Гінуць будзем доўга й пакутліва, перажываючы бяскультур'е, жабрацтва й паніжэньне, дэградуючы ў зьмешанае, хворае, кляніяльна эксплятаванае жыхарства, у зону экалягічных адкідаў, шкоднае прамысловасьці і радыялягічных экспэрымэнтаў. А незалежная-ж дзяржава — гэта найвышэйшая праява гістарычнае культуры нацыі, вынік гістарычнага разьвіцьця народу, што забясьпечвае яму пэрспэктыву й аптымальныя ўмовы існаваньня.

Я ўважаю і гаварыў аб гэтым ці раз, што якім-бы ні быў Савецкі Саюз, пакуль ён існуе, выйсьці зь яго адной рэспубліцы практычна немагчыма. Беларускі Народны Фронт даўно прапануе калектыўныя дзеяньні. Нашыя прапановы падтрыманыя дэмакратычнымі рухамі Латвіі, Летувы, Украіны, Эстоніі. 29 красавіка 1990 г. ў Менску зь ініцыятывы БНФ адбылася працоўная сустрэча на ўзроўні дэпутатаў Вярхоўных Саветаў і прадстаўнікоў народных франтоў Беларусі, Летувы, Украіны, г. зн. краёў былога Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Разглядалася пытаньне аб падпісаньні ў будучыні палітычнага Балтыцка-Чарнаморскага Саюзу ўсходнеэўрапейскіх дзяржаваў Украіны, Беларусі, Летувы, Латвіі, Эстоніі. Гэткая супольнасьць, бязумоўна, павінна будзе зьмяніць сытуацыю ў Эўропе і гарантаваць сувэрэнітэт кожнай зь пяцёх рэспублік. Па-першае, мы можам мець свой агульны рынак. Няхай не дасканальны, але дастатковы, каб ня толькі супрацьстаяць магчымай безразважнай эканамічнай блякадзе з усходу і націску з захаду, але й самым выстаўляць умовы ў адказ. Мы будзем мець магчымасьць ўхіліцца ад шантажу з боку СССР, якіх маніпуляцыяў з цэнамі на нафту, на рэсурсы і да г. п., бо ўсе гандлёвыя пастаўкі праз нашыя тэрыторыі і прасторы яму давядзецца аплочваць.

Мы ня здолеем адразу ўвайсьці на роўных у эўрапейскія рынкавыя дачыненьні. Але супольнасьць пяцёх рэспублік дасьць стартавую магчымасьць кожнай зь іх для далейшага нутранога разьвіцьця, шанц ня трапіць у эканамічную залежнасьць ад Заходняй Эўропы і ад СССР.

Заключэньне Балтыцка-Чарнаморскага Саюзу дзяржаваў дасьць магчымасьць ігнараваць памкненьні Гарбачова і ўраду СССР да прымусовага падпісаньня новага кабальнага саюзнага дагавору, сьціраванага на тое, каб прадоўжыць жыцьцё паміраючай імпэрыі і абанкрочанай савецкай улады.

Палітычны саюз пяцёх усходнеэўрапейскіх рэспублік абумоўлены таксама гістарычна й геапалітычна. 500 гадоў супольнай гісторыі Беларусі, Летувы і Украіны ў Вялікім Княстве, цесныя ўзаемасувязі зь Інфлянтамі, Рыгай, Эстонцамі — гэта часы залатога веку нашых народаў. Гэтая паўтысяча гадоў гаворыць нам куды больш, як 200 гадоў імпэрскае няволі.

**Пытаньне:** А якія будуць дачыненьні з Расеяй?

**Адказ:** На мой пагляд, зьяўленьне палітычнае супольнасьці пяцёх усходнеэўрапейскіх незалежных рэспублік будзе карысным для дэмакратызацыі Расеі. Асабіста я, аднак, на 99 працэнтаў сумляюся ў тым, што Расея станецца дэмакратычнай краінай. Паводле свае структуры, гістарычных традыцыяў і мэнтальных комплексаў — гэта тыповая імпэрыя ўсходняга ўзору, што пераняла існасьць і мэтады Залатое Арды. Гэтая краіна не павінна заставацца манапалістам у жыцьцёва важных дзялянках міжнародных і міждзяржаўных дачыненьняў. Інакш, яна зрэалізуецца як імпэрыя, сьціруе свае перавагі не на нутранае разьвіцьцё свае нацыі й дзяржавы, а на вонкавае, г. зн. на агрэсію, на ўмацаваньне манаполю. Гэткаму стану дзяржавы адпавядае і пэўны таталітарны характар улады. Расеі неабходна стварыць цывілізаванае абмежаваньне, гэта значыць такі стан, які, зачыняючы ёй шлях да агрэсіі, прымусіць яе зьвярнуцца да нутранога жыцьця і рэсурсаў свайго грамадзтва, змусіць разьвіваць нармальныя эўрапейскія ўзаемасувязі зь іншымі краінамі й народамі. З гэтага гледзішча Балтыцка-Чарнаморская палітычная супольнасьць дзяржаваў магла-б адыграць вельмі станоўчую для разьвіцьця расейскага грамадзтва ролю.

*(Ад рэдакцыі «Беларуса»: Дзеля нястачы месца мы апушчаем тут, адкладаючы да наступнага нумару, разгорнуты адказ З. Пазьняка на пытаньне: «Як тады Вы ставіцеся да артыкулу А. Салжаніцына 'Як абладзіць Расею?'».)*

**Пытаньне:** Якая сёньня сытуацыя ў БНФ «Адраджэньне»? Ці зьбіраецца ягонае кіраўніцтва значна пашырыць свой уплыў на масы ў бліжэйшым часе?

**Адказ:** Мы ня зьбіраліся і ніколі ня думалі «ўплываць на масы». Гэта камуністычнае разуменьне і камуністычная тэрміналёгія. Беларускі Народны Фронт — гэта ня партыя, а рух, заснаваны на самаарганізацыі людзей, на аб'яднаньні намаганьняў розных дэмакратычных арганізацыяў. БНФ сёньня — гэта палітычная апазыцыя КПСС. Гэта значыць, мы ідзём разам з нашым народам, які ўсё галасьней уздымае свой голас супраць камуністычнае дыктатуры.

Заціск і зьнішчэньне нашае культуры і мовы камуністамі значна зруйнавалі нацыянальную сьведамасьць беларускага народу. Дзеля гэтага няма ў нашым грамадзтве разьвітае нацыянальнае кансалідуючае асновы. У выніку, ні адна зьява ці рух у Рэспубліцы пакуль што ня можа мець масавага характару. Патрэбен час. Гэта час культурнага адраджэньня беларускае нацыі. Будучыня БНФ яшчэ наперадзе.

**Пытаньне:** Ці не здаецца Вам, што сяго-таго насьцярожвае ў праграме БНФ выразны прыярытэт нацыянальнае ідэі над ідэяй свабоды асобы? Хіба магчыма, не «перавярнуўшы» гэтую «піраміду», тварыць запраўды дэмакратычнае грамадзтва?

**Адказ:** Асаблівасьць БНФ якраз у тым, што ў аснове гэтага руху пастаўлены свабодны чалавек і ягоныя правы. Праз свабоднага чалавека да свабоды і адраджэньня Беларусі — вось дэвіз. Другое, істотнае для БНФ, гэта спалучэньне дэмакратычнага руху і нацыянальнага адраджэньня. Праз дэмакратычны рух да нацыянальнай інтэграцыі. Трэйцяе — спалучэньне дэмакратычнага, адраджэнскага і антыкамуністычнага руху. Найважнейшы прынцып, адлюстраваны ў статуце БНФ — не адказваць гвалтам на гвалт уладаў. Усе гэтыя палажэньні зьдзяйсьняюцца на практыцы. Што да фармуліроўкі Вашага пытаньня, то яна няправільная, заснаваная, відаць, на дэзынфармацыі.

**Пытаньне:** Ваш пагляд на магчымасьці й пэрспэктывы супрацоўніцтва зь іншымі палітычнымі сіламі ў Рэспубліцы і за ейнымі межамі?

**Адказ:** У Рэспубліцы заяўлена аб стварэньні колькіх партыяў. На жаль, пакуль што гэта партыйная мікрабутафорыя і, відаць, без асаблівых пэрспэктываў. Кожны разумны чалавек, які думае аб дэмакратычнай незалежнасьці вольнай Беларусі, павінен разумець, што ў сытуацыі, якая склалася, трэба ісьці пад дахам БНФ. У тым ліку й міркрапартыям.

Што да Дэмакратычнае плятформы Беларусі *(ёсьць такі невялікі рух у рамках КПБ — рэд. «Б-а»)*, дык БНФ падтрымвае яго ў дэмакратычным зьмесьце. Шкада толькі, што тут разыход з КПСС не ў прынцыповых пытаньнях. Галоўныя дэмакратычныя дамаганьні цяпер у Беларусі — гэта незалежнасьць, дзяржаўны сувэрэнітэт Рэспублікі й адраджэньне нацыі. Калі гэтых палажэньняў няма, як іх няма фактычна ў Дэмплятформе, аб ніякай дэмакратычнай гаварыць не даводзіцца. Тады гэта не палітыка, а гульня, якая ня мае пэрспэктывы і не касуе мяжы паміж камуністамі з партбілетамі і камуністамі без партбілетаў.

**Пытаньне:** Апрача сказанага, з чым яшчэ хацелі-б Вы зьвярнуцца да нашага (у асноўным маладога) чытача?

**Адказ:** Пажадаю ім здароўя й адраджэньня. Адраджайце, любеце і беражэце вашу старадаўную, родную, сьвятую й цудоўную беларускую мову.

## ДЛЯ КАГО БУДАВАЎСЯ КАМУНІЗМ?




*Рысункам гэтым, зьмешчаным у менскім «Вожыку» (№16, жнівень 1990), можна было-б добра ілюстраваць другое выданьне кнігі «Коммунистическая партия Белоруссии в цифрах» (выд. «Беларусь», 1978). Кніга пачынаецца ленінскай цытатай: «Партия — ум, честь и совесть нашей эпохи».*

### АРМІЯ: КАМУ СЛУЖЫМ?

Летась у Беларусі 40 прызыўнікоў адмовіліся ад вайсковае службы, у сёлетнім-жа вясеньнім наборы лік гэткіх «адмоўнікаў» падвоіўся.

Карэспандэнт газэты «Красная звезда» (4.XI) палкоўнік А. Смалянка ў рэпартажы «з Савету Міністраў БССР» піша пра незацікаўленасьць ураду рэспублікі станам прызыўных пунктаў. Жыхарства таксама ставіцца няпрыхільна да вайсковае службы. Смалянка быў на менскім абласным прызыўным пункце ў мамэньце, калі будынак «быў па сутнасьці блякаваны бацькамі й знаёмымі прызыўнікоў». Калі перад імі выступіў ваенком рэспублікі генэрал-маёр Караткоў з тлумачэньнем, публіка зарэагавала вось як:

«Пасыпаліся пытаньні, гарачыя выкрыкі. Выглядала гэта так, быццам хлапцоў 'браў' у армію генэрал, а не дзяржава згодна з Канстытуцыяй».

# НА СКАРЫНАЎСКІХ СЬВЯТКАВАНЬНЯХ

***Ад Рэдакцыі:** Прафэсар Джэймс Дынглі й адвакат Гай Пікарда, два брытанскія беларусазнаўцы, былі сёлета ў верасьні афіцыйнымі гасьцьмі ў Менску й Полацку на 7-дзённых сьвяткаваньнях скарынаўскага 500-годзьдзя. Вярнуўшыся з падарожжа, яны падзяліліся зь «Беларусам» сваімі ўражаньнямі й назіраньнямі, частку якіх перадаём ніжэй.*

### Роздум і назіраньні праф. Джэймса Дынглі *(у пераказе)*

Падзеі адбываюцца так хутка, што нам трэба думаць аб нейкай скаардынаванай праграме ў некаторых дзялянках. Калі Беларусы на Захадзе хочуць зьбіраць грошы на дапамогу Бацькаўшчыне, дык трэба пачынаць абмяркоўваць пытаньне, якія дзялянкі патрабуюць дапамогі найперш. Камп'ютэры й друкаркі — гэта добра, але, можа, яшчэ лепш — заснаваньне ў Менску (у межах, дазволеных законам) супольнага заходня-беларускага выдавецтва, якое было-б даступнае для ўсіх жадаючых бяз розьніцы на іхныя перакананьні. Калі не, дык ці ня лепш было-б, у супрацоўніцтве з адказнымі прадстаўнікамі АН БССР і ВНУ, знаходзіць адпаведных маладых кандыдатаў на стыпэндыі ў заходніх унівэрсытэтах — і не для вывучаньня беларускай мовы ці літаратуры, а эканамічных і палітычных дысцыплінаў, ангельскае мовы.

На скарынаўскай урачыстасьці было вельмі прыемна сказаць у выступленьні пра вынікі працы др. Вітаўт Тумаша, трымаючы ў руках ягоную вялікую скарынаведную бібліяграфію. Сама згадка ягонага імя выклікала спантанныя воплескі.

На паседжаньні арганізацыйнага камітэту для заснаваньня міжнароднае асацыяцыі беларусістаў выказвалася шмат цёплых пачуцьцяў, але ня шмат было праароблена канкрэтнае працы. Устаноўчы зьезд адбудзецца, відаць, у травені наступнага году.

Падарожжа ў Полацак было найбольш памятным тым, што тры аўтобусы, напоўненыя навукоўцамі й журналістамі, ехалі ў эскорце міліцыі, і гэта дазваляла нам ехаць сярэдзінай дарогі, калі іншыя машыны мусілі зьяжджаць набок. Нельга ўявіць сабе чагосьці падобнага ў Ангельшчыне — скажам, падарожжа зь Лёндану ў Стратфорд у суправодзе паліцыі на шэкспіраўскае сьвята.

Мяне абурыла, калі нейкі клерык, гаворачы па-расейску, намагаўся прышчапіць Францыску Скарыну імя «Георгі». Маё абурэньне гэтай «рэгеоргифікацыяй» з боку асобы, якая, як мне ведама, належыць да Кампартыі, дасягнула кульмінацыі, калі я даваў інтэрв'ю ў часе перапынку.

Пасьля звароту ў Менск сэрца цешылася на ўстаноўчым зьезьдзе таварыства «Бацькаўшчына» дзе я бачыў энтузіязм, якім была напоўненая заля зьезду, густа ўдэкараваная нацыянальнай сымболікай. Падумаць толькі, што год таму ўлады намагаліся паставіць бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоню вонках закону, тымчасам як цяпер амаль з пэўнасьцяй можна сказаць, што Вярхоўны Савет легалізуе іх на наступнай сэсіі.

Міністар замежных справаў Пётр Краўчанка і міністар культуры Яўген Вайтовіч выразна прадэманстравалі — ня трэба гэтаму дзівіцца, — што ўрад БССР зацікаўлены ў будаваньні мастоў да Беларусаў на Захадзе. Дзіўна аднак было пачуць у Краўчанкавым выступленьні, што Беларусь можа дамагацца кампэнсацыі за страты, спрычыненыя Рыжскім трактатам. Праўда, ён не сказаў, ад каго будзе дамагацца, ці толькі ад Палякоў ці й ад Савецкага ўраду таксама.

Узрушальным да сьлёз было выкананьне «Магутны Божа» ў часе адчыненьня выстаўкі ў Доме мастацтваў. Арсеньнева й Равенскі прагучэлі нарэшце ў сталіцы іхнай краіны!

Сэрца балела, слухаючы ў Полацку пасьля беларускае службы а. Матусэвіча нараканьні жанчын, што каталіцкі біскуп аніяк не дапамагае ім дастаць царкву, тымчасам як праваслаўныя гэткую дапамогу маюць ад сваіх гіерархаў.

Што да самога Францішка Скарыны, дык ён быў ушанаваны заснаваньнем выдатнага музэю друку ў Полацку і тым, што ладная частка цырымоніяў вялася па-беларуску. Але ці хопіць гэтага? І наколькі гэта зьвязана са штодзённай рэальнасьцяй? Як пераканаць людзей, што іхнае эканамічнае становішча палепшае, калі-б нейкім цудам праз ноч кожны пачаў гаварыць па-беларуску?

Гэта цудоўна, што ў Менску будзе скарынаўскі Інстытут Беларускай Культуры, што ў сталіцы адчыняюцца беларускія школы. Але спатрэбіцца намаганьні больш як цэлага пакаленьня, каб паправіць шкоду, якую спрычынілі беларускасьці мінулыя 40-50 гадоў.

### Зь дзёньніка Гая Пікарды *(фрагмэнты)*

*5-га верасьня.* Імкнучы цягнікам зь Берасьця на ўсход, я ўзіраюся праз вакно, каб прачытаць які-небудзь знак ці назоў або рэкляму, што сказала-б мне, дзе я — у Кітаі ці ў Патагоніі. Дзяржаўная мова ў Беларусі — нябачная мова, прынамся ўздоўж шляху да Масквы. Прыбіральня ў гэтым цягніку Варшава-Бранск, якім карыстаюцца работнікі, — цэлае страхоцьце. Цярплівасьці!..

Менскі вакзал спадабаўся. Нейкім чынам ён мне нагадвае Чыкага. Але прасторныя бульвары і элеганцкія публічныя будынкі, якія я бачу з вакна майго таксі, выклікаюць вобразы Санкт-Пецярбургу, а можа Гэльсынкаў — у кожным разе, тут не памыліўся — сталіца. Ня ўсе Сталінавы мроі былі кашмарам.

Ларыса Пятроўна, наш строгі гід, уладжвае мяне ў нязвычайна шыкоўным гатэлі, што сарамязьліва прыхоўвае свой назоў — «Чырвоны Кастрычнік», і які выразна не зацікаўлены звычайнымі начлежкамі з вуліцы. У ваннах ёсьць затычкі. Няма паўсюдных наглядчыкаў. Сьнеданьнямі аб'есьціся можна....

У Акадэміі прамовамі ўшаноўваюць вялікага Скарыну. Прасторны амфітэатр запоўнены. Спасярод выдатнасьцяў, што сядзяць у першых радох, няма Біскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які ўсьпеў некуды выехаць на час урачыстасьцяў.

У аднолькава рытарычныя прамовы баўгарскага, расейскага, нямецкага, украінскага, польскага і чэшскага гасьцей унёс крыху жыцьця «Вялікі Джым» Дынглі сваім выступленьнем пра вартасны ўклад у скарыніяну др. Вітаўта Тумаша, што выклікала доўгія воплескі; такая-ж рэакцыя на словы пра а. Аляксандра Надсона і лёнданскую Скарынаўскую бібліятэку. Мяне запрасілі сказаць колькі словаў пра Скарыну й музыку. Я скарыстаў з нагоды, каб зьвярнуць увагу на беларускія ірмалоі, недасьледаваныя й неапублікаваныя.



*У Менску на скарынаўскім сьвяце.*

У Музэі беларускага старадаўнага мастацтва, дзе знаходзіцца багатая калекцыя сабраная Юр'ем Хадыкам, эмацыянальна прагучэла «О, Беларусь, мая шыпшына» Міколы Куліковіча ў выкананьні хору АН БССР пад кіраўніцтвам Тамары Слабадчыковай. Якая пашана вялікаму кампазытару ў месяцы, у якім гэтая песьня была напісаная!

У часе шыкоўнага прыняцьця, зь белавежскаю гарэлкай, ікрыстым віном і закускай, была нагода пагутарыць зь Мітрапалітам Філарэтам, бібліёграфам Нікалаевам, які вывучае беларускія рукапісы ў Шчадрыніцы, ды абыходлівым і яснамоўным беларускім міністрам замежных справаў Пятром Краўчанкам, які вельмі разьлічвае на кантакты з замежнымі Беларусамі ў наладжваньні культурных і кансулярных сувязяў.

Эдуард дэ Паміянэ, францускі падарожнік-гурмэ з 1920-х гадоў, не памыляўся, калі ставіў беларускія шынку й каўбасы вышэй за тыя, якія ён смакаваў у Парме.

*6 верасьня.* У элеганцкай залі з кандылябрамі й дыванамі Беларускага Таварыства дружбы й культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі нас чакалі афіцыйныя асобы й прадстаўнік сродкаў інфармацыі. У нашай групе была славацкая дэлегацыя ды нашчадак вялікага гуманіста Рэнэсансу др. Станіслаў Скарына з Манрэалю. Ягоныя цьверджаньні пра сваё паходжаньне можа зьдзівілі сяго-таго, але ўласьцівая яму спакойная павага, валоданьне колькімі славянскімі мовамі, улучна з дастатковым веданьнем беларускай, і запраўднае фізычнае падабенства да свайго славутага прашчура, ня кажучы ўжо пра ягоную выдатную кар'еру, надаюць верагоднасьці ягоным словам. Зразумела, што ён і прыцягнуў да сябе галоўную ўвагу карэспандэнтаў. Усё-ж я не прапусьціў нагоды, каб падкрэсьліць пільную патрэбу арганізаваць у Менску поўны збор фатакопіяў усіх нядаўна знойдзеных рэлігійных сьпеўнікаў (ірмалояў,) якіх цяпер не знайсьці ў Беларусі. Я запрапанаваў прысылаць (і выслаў пасьля) сьпісак гэткіх сьпеўнікаў, каб памагчы ў гэтай важнай справе забясьпечаньня неабходным матар'ялам маладых музыколягаў і камразытараў.

Арганізатары сустрэчы, як выглядала, былі запраўды зацікаўленыя беларускім замежным жыцьцём, якога-б кірунку яно ні было, і выглядалі задаволенымі, што чужынцы знаходзяць Менск гасьцінным і прываблівым горадам, якім ён і ёсьць у запраўднасьці.

Мой прыяцель Віталь Зайка завёў мяне ў Кальварыйскую царкву, адзіную каталіцкую сьвятыню ў Менску... Там шмат хто прасіў у мяне «Беларускі духоўны сьпеўнік», і я прадаў каля дзесятка экзэмпляраў, аддаўшы грошы на Чарнобыльскі фонд.

Недалёка ад Старога Места я выпадкова сустрэўся з Тамарай, зь якой у мяне была дамоўленасьць наведаць дабудоўку кансэрваторыі, што знаходзіцца ў былым Бэрнардынскім манастыры. Прайшоўшы клідорам пад рамантычнымі скляпеньнямі, мы сустрэліся з клясай вакалістаў-першакурсьнікаў, якія, як выглядала, развучвалі да нашага прыходу Куліковічаву «Іже херувімы» слуцкага расьпеву. Мяне запрасілі выступіць перад групай на тэму беларускае царкоўнае музыкі — да нядаўнага часу «белая пляма» ў іхнай ведзе. Я гаварыў ім пра бізантыйскі знаменны расьпеў зь ірмалояў Супрасьля, Жыровічаў, Вільні, Полацку, Магілёва, пра літургічныя функцыі кантычак з багагласьнікаў, падаючы фальклёрныя мэлёдыі на довад іхнага беларускага характару. Разам з пытаньнямі лекцыя заняла 45 хвілін, якія былі, бадай, прывядзеныя з карысьцяй; зацікаўленьне ў студэнтаў пытаньнямі царкоўнай музыкі, бясспрэчна, ёсьць.

Увечары я не пайшоў на афіцыйны банкет, а правёў час з групай вельмі вымоўных і шматмоўных студэнтаў (нямецкае, ангельскае, францускае й японскае моваў). У малым утульным памешканьні, напакаваным кніжкамі, мы абмяркоўвалі да познай начы рэлігійныя й дзяржаўныя справы пад саматробнае віно і смачную закусь. Гэта быў банкет, якога я не хацеў-бы прапусьціць, незважаючы на ўедлівую заўвагу наступнае раніцы майго шмат разоў выпрабоўванага анёла-ахоўніка.

*(Працяг будзе)*

***Ліст у Рэдакцыю***

## Ф. СКАРЫНА НЯ МЕЎ НЯВОЛЬНІЦКАЕ ПСЫХАЛЁГІІ

Чытаючы артыкул у «Беларусе» №-374 «Запаветы Скарыны», нельга пазбыцца настырлівага адчуваньня, што чытаеш быццам не пра нашага Францішка Скарыну. Працэс чытаньня, а тым больш крытыкі — творчы працэс, бо чытач ці крытык укладае ў твор, які чытае або піша, самога сябе. Так і аўтар «Запаветаў» надзяліў Скарыну сваім сьветапаглядам, і наш Францішак Скарына зрабіўся ў ягоным артыкуле нейкім іншым.

Згода, Францішак Скарына — глыбокаверуючы хрысьціянін і патрыёт таго месца, дзе нарадзіўся і таму да яго асаблівую ласку мае, выказвае пагляды згодныя з навукай Хрыста — ня болей і ня меней. Таму-ж Скарынавыя выказваньні й пагляды высокародныя.

Робіцца аднак няпрыемна, калі пачынаеш чытаць абзац:

«Дарэчы будзе прыпомніць, што ў часе Скарыны Вялікае Княства Літоў-

*(Працяг на 7-й б.)*

Віншуем навуковага працаўніка, былога старшыню Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, плённага дасьледніка жыцьця й дзейнасьці доктара Францішка Скарыны

## др. ВІТАЎТА ТУМАША

з 80-мі ўгодкамі жыцьця, што спаўняюцца 21 сьнежня 1990 году, і шчыра зычым яму добрага здароўя і ўсякае памыснасьці.

**Управы БІНіМ, БАЗА, рэдкалегія «Беларуса», сябры.**

Віншуем грамадзкага дзеяча, пісьменьніка, публіцыста й выдаўца

## сп. КАСТУСЯ АКУЛУ

з 65-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 16 лістапада 1990 году, і шчыра зычым яму добрага здароўя, плённае працы і ўсякае памыснасьці ў грамадзкім і асабістым жыцьці.

**Управа ЗБК, сябры рэдкалегіі «Беларуса».**

Віншуем пісьменьніка, грамадзкага працаўніка, публіцыста й выдаўца

## сп. МІХАСЯ КАВЫЛЯ

зь 75-мі ўгодкамі жыцьця, што спаўняюцца 1 сьнежня 1990 году, і шчыра зычым яму добрага здароўя, плёну і ўсякае памыснасьці ў жыцьці й далейшай працы.

**Управа БІНіМ, сябры рэдкалегіі «Беларуса».**

Віншуем грамадзкага дзеяча

## сп. ВАЛЯР'ЯНА НАВІЦКАГА

зь 70-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 12 лістапада 1990 году, і шчыра жадаем яму добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў жыцьці й далейшай працы.

**Управа ЗБК, сябры**

## ДА 70-ГОДЗЬДЗЯ ДРУКАВАНАГА ПАЧАТКУ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ

Мне толькі нядаўна давялося пазнаёміцца са зьместам публікацыі Сяргея Шупы «Друкаваны пачатак Н. Арсеньневай» («Беларус», № 370).

Пішучы пра паэтычны дэбют Натальлі Арсеньневай, Аўтар, між іншым сьцьвердзіў: «А тымчасам ужо 16 лістапада 1920 году аднаўленая стараньнямі Антона Луцкевіча віленская газэта 'Наша Ніва' надрукавала ў сваім № 4 верш Арсеньневай 'Восень'. Зь вялікаю доляй верагоднасьці можна меркаваць, што гэта і быў першы выступ паэткі, тады яшчэ вучаніцы Віленскай беларускай гімназіі, у пэрыядычным друку».

Добра, што Сяргей Шупа дазволіў сабе на характэрную дасьледчыкам пэўную дозу няўпэўненасьці, таму што ягоная канстатацыя сапраўды не дакладная. Магчыма, што захаваліся ня ўсе нумары «Нашай Нівы» ад 1920 г. і аўтару не давялося бачыць першага зь іх. Таму, што якраз у ім («Наша Ніва», нумар 1 ад 28 кастрычніка 1920 г.) і надрукаваны, відаць, паэтычны дэбют Натальлі Арсеньневай «Мой родны край». Вершу гэтага я не знайшоў у найпаўнейшым зборніку паэткі «Між берагамі» (Нью-Ёрк, 1979).

Пра факт гэты мне было яшчэ невядома тады, калі я пісаў навуковы артыкул, між іншым, пра творчасьць Натальлі Арсеньневай — «Эстэтызм у беларускай паэзіі, публікаванай на старонках часопіса 'Родныя Гоні'» (на польскай мове), зьмешчаны ў часопісе Studia i Materiały. Filologia Rosyjska (Zielona Góra 1988, t. XXVIII, z. 7, ss. 107-119), або я проста дакладна ня зьверыў фактаў, таму што якраз у гэты час корпаўся ў сотнях заходнебеларускіх пэрыядычных выданьняў 1918-1939 гг., якія ў 1988 г. склалі і дагэтуль не апублікаваную маю кніжку «Беларуская прэса ў II-й Рэчы Паспалітай (1918-1939)», (машынапіс на польскай мове, сс. 277).

Разам з паэтычным дэбютам Натальлі Арсеньневай, у першым нумары ўзноўленай Антонам Луцкевічам «Нашай Нівы», друкавалася апавяданьне Максіма Гарэцкага, якое напісаў ён у Гжацку, «Прысяга»; у другім нумары, ад 1 лістапада 1920 г. — працяг успомненага адпавяданьня і вершы Казіміра Сваяка «На восень», «*** Задушкі йдуць, самлела ўжо прырода...», «*** А на Дзяды я заўтра возьму воску...».

Усіх зацікаўленых радаслоўнай роду Арсеньневых інфармую, што ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва СССР у Маскве (фонд Салагубы, нумар фонду 453, воп. I, спр. 1736) знаходзіцца генэалягічная табліца гэтай старой славутай сям'і пад загалоўкам «Род дворян Арсеньвых» (на расейскай мове), машынапіс якой быў закончаны 31 студзеня 1991 г.. Вынікае зь яе, што радаслоўную гэтага роду запачаткаваў нейкі Аээрбайджанец.

Канчаючы, трэба згадзіцца зь Сяргеем Шупам, што сапраўды ў 1990 г. прыпадае 70-годзьдзе літаратурнай дзейнасьці Натальлі Арсеньневай.

Варшава

**Юры Трачук**

## «ДЗЯКУЮ ВАМ ЗА ТОЕ, ШТО ВЫ ЁСЬЦЬ...»



*Сяржук Сокалаў-Воюш выконвае песьню. У глыбіні сцэны — сп. Алекс Мартыновіч, гукаапэратар.*

Гэтымі словамі прывітаў нас сябра Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», наш дарагі, непаўторны бард Сяржук Сокалаў-Воюш.

Немагчыма выказаць Сяржуку нашу ўдзячнасьць за гэтыя словы. У гэтым кароткім сказе было для нас выказана прызнаньне нашага ўпартага трываньня быць заўсёды Беларусамі, берагчы нашу родную мову, нашы песьні, традыцыі.

28 кастрычніка заля Амэрыканска-Беларускага Цэнтру ў Саўт-Рывэры ізноў (маю на ўвеце ранейшы канцэрт «Жывіцы» 15 верасьня) была перапоўнена. Сабраліся мы тут, каб пабачыць і паслухаць нашых слаўных бардаў, асабліва Сяржука Сокалава-Воюша, бо Данчыка Адрусышына мы ўжо мелі нагоду паслухаць. Шмат чулі мы пра Сяржука з прэсы і проста ня верылася, што ён вось тут сярод нас.

Пасьля кароткай прамовы дарагога гасьця зь Беларусі вечар пачаў Данчык. Выкананьне ягонае было, як і заўсёды, прачулена-мэлядычнае. Воплескам ня было канца. Ведаючы, як шмат спрычыніўся ён да папулярызацыі нашага імя ў сьвеце, мы ганарымся тым, што ён, як мэтэор, паявіўся ў нашым асяродзьдзі. Прасьпяваўшы колькі песьняў, Данчык аддаў мікрафон Сяржуку. Загучэў моцны, трыбунны голас Сяржука. Ягоныя песьні заклікалі да ўздыму, да змаганьня, адвагі й веры, што жыве Беларусь і будзе жыць.

Жывём мы ў часе вялікіх падзеяў і, слухаючы заклікі Сяржука, верым, што надыходзіць той час, калі наша Бацькаўшчына будзе самастойнай дзяржавай пад бел-чырвона-белым сьцягам і пад знакам Пагоні сярод вольных народаў сьвету.

Сяржук у сваіх вершах і песьнях вырастае ў нашых вачох магутным волатам, што ня йдзе на ніякія кампрамісы. Ягоны голас трапляе ў сэрца, распальваючы ў ім веру ў лепшую будучыню. Прыпамінаючы ягоныя словы на пачатку гэтага вечара, мы таксама кажам яму: дзякуем Табе, Сяржук, што Ты ёсьць.

Прысутны на вечары кампазытар Аўген Магаліф зь Менску зайграў на піяніна і прасьпяваў некалькі сваіх твораў, за што быў узнагароджаны гучнымі воплескамі. Трэба зазначыць тут, што Магаліф, між іншымі, напісаў музыку да вершу Сяржука «Туманы, туманы». Гэтая прыгожая песьня ўвайшла ў Данчыкаў рэпэртуар.

Нельга ня ўспомніць удзелу ў гэтым вечары танцавальнай групы «Васілёк», якая зрабіла вельмі прыемнае ўражаньне танцамі й беларускімі ўборамі.

У танцы пад мэлёдыю «Люблю наш край» стваралася ўражаньне нейкага зачараванага балету, а ў «Лявонісе» было шмат сілы й тэмпэрамэнту. Было надзвычай прыемна бачыць сяброўак і сяброў групы «Васілёк», яны захаплялі сваёй прыгажосьцю, маладосьцю і беларускім адзеньнем. Устаўшы, усе прысутныя разам з групай «Васілёк» прасьпявалі ўрачыста песьню «Люблю наш край, старонку гэту».

Вечар прайшоў зь вялікай удачай, пакінуўшы ўва ўсіх мілыя ўспаміны і жаданьне, каб такіх спатканьняў было больш.

**Пётра Нядзьвецкі**

## ГОСЬЦЬ ЗЬ МЕНСКУ



*Кампазытар Аўген Магаліф*

У Амэрыцы гасьцюе цяпер кампазытар Аўген Магаліф, песьні якога ўвайшлі ў рэпэртуар Данчыка, Сяржука Сокалава-Воюша, Лёні Барткевіча. Адна з Магаліфавых песьняў, «Два Полацкі» (словы Сокалава-Воюша), прысьвечана беларускаму гістарычнаму Полацку й беларуска-амэрыканскаму культурнаму цэнтру «Полацак» у Клііўленьдзе. Сп. Магаліф пляну напісаць таксама песьню да 500-годзьдзя адкрыцьця Амэрыкі Колюмбам. Паэты, клічце Музу й бярэцеся за пісаньне тэксту такой песьні!

# ВАСІЛЁК НА БЕЛАРУСІ

*(Працяг. Пачатак гл. у «Беларусе» №№ 372, 373, 374)*




*На экскурсіі ў Вільні ў дарозе да магілы Кастуся Каліноўскага. Фота Ліды Данілюк.*

У гэтым нумары мы падамо ўражаньні маладзейшых сяброў «Васілька» з падарожжа на Беларусь.

**Пятро Рыжы.** Нарадзіўся я ў Польшчы. На Беларусі ніколі дагэтуль ня быў. Першае ўражаньне, што ўсе вакол цябе — Беларусы. Хоць некаторыя зь іх і гавораць па-расейску, але як загаворыш да іх па-беларуску, пачынаюць адказваць табе, ва ўсякім выпадку стараюцца, па-беларуску. Хадзіў па вуліцах свабодна, адчуваў сябе як дома і нават быў праваднікам для другіх з групы. Дзяўчаты беларускія вельмі прыгожыя, добра адзетыя, але як яны жывуць — ня меў нагоды пазнаць.

Было вельмі цікава сустрэцца зь людзьмі, якія робяць новую беларускую палітыку. Нават пабачылі па тэлебачаньні нашых такіх паважных палітыкаў, як Пазьняк, які вельмі інтэлігентна гаварыў пра нашыя нацыянальныя праблемы. Прыемна было зьведаць цэрквы й касьцёлы ды гэткія гістарычныя месцы, як Полацак, Гародня. Самае прыемнае ўражаньне зрабіла, што моладзь там уцягваецца ў беларускую справу — ёсьць надзея на будучыню.

**Надзя Захаркевіч.** Часам я ня зусім добра чулася, бо ня зусім добра разумею па-беларуску, але ўсе людзі былі такія сымпатычныя, так стараліся мне дапамагаць; некаторыя зь іх гаварылі па-ангельску. Пасябравала я з сынам Сяржука Сокалова-Воюша, Стасем — ён вучыў мяне гаварыць па-беларуску. Усе былі да мяне асабліва ўважлівыя. Вялікае ўражаньне зрабіла Купальле. Яны тут сьвяткуюць ня так, як у Беласточчыне. Шмат было маладых людзей, усе былі вясёлыя, скакалі вакол агня і праз агонь. Я была вельмі захопленая гэтым. Пазнаёмілася шмат зь кім і добра пасябравала, мы абмяняліся падарункамі. Мела нагоду спаткацца з родзічамі майго таты, якіх я раней ня ведала. Найбольшае ўражаньне зрабіў на мяне ня нейкі канкрэтны выпадак, але людзі — якія яны ўсе сардэчныя, гасьцінныя, сяброўскія!

**Павал і Коля Рамана.** (Яны адзін аднаго дапаўнялі, папраўлялі, а часам і розьніліся ў паглядах, як найчасьцей бывае паміж братамі.)

**Павал.** Першае ўражаньне на менскім аэрапорце: акрамя маладых, якія нас спатыкалі, былі й сем'і нашых сяброў з «Васілька», была такая цяплыня, што мы адразу-ж пачуліся як дома; яны ўжо шмат зналі пра нас.

**Коля.** Калі мы ляцелі, я, нават ня гледзячы на зямлю з самалёту, адчуў, што мы ўжо на. Бацькаўшчыне, пра якую я так шмат чуў і так хацеў пабачыць. І разам з тым ня верылася, што мы ўжо там. Усе нас так добра сустрэлі — мы адразу адчулі сябе сярод сяброў.

**Павал.** Было толькі вельмі крыўдна, што яны ня так добра гавораць па-беларуску, што (дадае Коля) яны саромеюцца свае мовы.

**Коля.** Вельмі моцнае й цяжкое ўражаньне на нас зрабіла наведаньне шпіталя ў Менску. Нам цяпер вельмі важна, каб вонкавы сьвет даведаўся пра Чарнобыльскую катастрофу і адчуў пасьледкі яе. Мы мусім пра гэта інфармаваць усіх.

**Павал.** Пасьля канцэрту ў Вільні карэспандэнты тэлебачаньня пыталіся ў нас пра ўражаньні з падарожжа, і мы там маглі адкрыта гаварыць. Другое інтэрв'ю — у Менску, у апошні дзень — там трэбы было ўжо ўважаць, што скажаш, але мы перадалі свае думкі, і я лічу гэта вельмі важным.

**Коля.** Спатканьне зь сям'ёй — гэта было новае ўражаньне. Мы ня ведалі, хто прыедзе нас пабачыць. Было вельмі прыемна пабачыцца са сваякамі, але таксама крыху й сумна, бо сустрэча была кароткая.

**Павал.** Было такое адчуваньне незадавольненасьці, што за такі кароткі час нельга было зь імі добра пазнаёміцца.

**Коля.** Вялікае ўражаньне царква ў Полацку зрабіла на нас. Але, калі прыбылі ў Вільню, і пабачылі, як там усё добра падтрымваецца, дык кінуўся ў вочы канстраст зь Беларусьсю. Як гэта крыўдна, што нашая культура прападае. Цудоўны музэй энтаграфіі ў Менску, як мы чулі, мае быць зачынены. Мне падумалася, што наша місія цяпер — дамагацца, каб людзі пазналі, каб людзі зразумелі, што трэба берагчы сваю спадчыну.

**Павал.** Мы мусім паказаць сваю падтрымку. Мы з свайго боку зробім усё, каб ім дапамагчы.

**Коля.** Людзі, якія былі з намі, добра гэта разумелі.

**Павал.** Наш расклад быў вельмі поўны — мы мелі мала вольнага часу.

**Коля.** Мы-ж паехалі туды не патое, каб добра правесьці час, але каб уведаць тых людзей і каб яны крыху ўведалі нас. Паказаць ім, што мы пра іх думаем і клапоцімся.

**Зора Кіпель**

### «ВАСІЛЁК» І СУСТРЭЧА НА ВІДЭАСТУЖЦЫ

Два дакумэнтальныя відэафільмы — «(Васілёк» на Беласточчыне (1989)» (60 хвілін з англамоўным расказам) і «Кліўлендзскія канцэрты (1990)» (5 гадзін, ужывую) — можна набыць, адпаведна, за 45 дал. і 40 дал. (у цану ўдучаны кошт перасылкі, тры тыдні чаканьня). Заказваючы, трэба назваць пажаданы фармат: VHS ці Beta.

Частка прыбытку пойдзе на фонд Чарнобыля і будаўніцтва Беларускага ліцэю ў Гайнаўцы.

Чэкі (у ам. д.) слаць на адрас:
P. Survilla
1002 South Seventh St.
Ann Arbor, MI 48103

*Радкі зь лістоў*

# ВОДГУЛЬЛЕ ДАЧНЫКАВЫХ ПЕСЬНЯЎ

**Ад Рэдакцыі:** *Паколькі лісты прыватныя (да Данчыка й ягонай маці), падаём замік подпісу толькі ініцыял імя або прозьвішча.*

*«Тваё [Данчык] вяртаньне на Радзіму вяртае нашым людзям чалавечую годнасьць, іх гістарычныя здабыткі, любасьць да сваёй мовы, надзею. І хаця захапленьне Табой тлумачаць, бывае, скуднасьцю нашага духоўнага сьвету, мне здаецца, Ты яго значна ўзбагаціў. На сустрэчах з Табой людзі інакш глянулі на сябе, сваё мінулае і сучаснае, задумаліся над будучым. Дзякуючы Табе, многія даведаліся пра Сокалава-Воюша, Новіка-Пяюна, пачулі пра Слуцкае паўстаньне, адчулі лучнасьць з эміграцыяй, успомнілі Луцкевічаў, Забэйду-Суміцкага, захапіліся Арсеньневай. Празь Цябе запабачылі паўзабытага ўжо Барткевіча, інакш пачалі ставіцца да Корбут. Упэўнена, ад вас нехта ўпяршыню пачуў пра нашы нацыянальныя сімвалы, сьвяты, дзеячоў; нехта зьмяніў да іх стаўленьне. У выкананьне вашых заўвагаў трохі пабольшала на нашых вуліцах беларускіх надпісаў. Ведаеш, у музэі, паказваючы фотакартку Луцкевічаў, называюць зараз ня толькі братоў, але і маленькую Эмілію — «прабака вядомага беларускага сьпевака». — І.*

..........

*«Цяпер колькі слоў пра радаснае і прыемнае. Ну, зразумела, гэта будзе пра Данчыка ды спадарыню Юлю. (...)*

*«На выбарах Данчык таксама працаваў. [называецца прозьвішча кандыдата — рэд. «Б-са»] столькі разоў перапісваў кружэлку з канцэртам, разам, што ўжо і зь ліку зьбіўся. Усім дай! Асабліва нефармалам. Данчык быў галоўны козыр! Эмацыянальны! Спачатку кандыдат у дэпутаты гаварыў палітыку, якая ўжо ўсім надаела, а потым пераключаўся на адраджэньне мовы (тут таксама без асаблівага энтузіязму), але вось ён выцягвае свой магнітафончык і ўключае... Зала сьціхае і... на разьвітаньне хоць і ня пляскае ў далоні, як на канцэрце, а ўсё-ж неяк задумліва разыходзіцца. А тут во нядаўна, а дакладней 1 верасьня, у школах праводзіўся скарынінскі ўрок, дык жонка майго сябра, яна бібліятэкарка, дазволіла сабрацца многім дзеткам (некалькі класаў) у бібліятэцы. Ізноў-жа гаворка пра беларускую мову, пра дзяржаўнасьць. Усё ішло, зразумела, тугавата, калі не сказаць горш, але вось яна ўзяла касэту таго-ж [называецца прозьвішча кандыдата — рэд. «Б-са»], уключыла... Яна мне потым тэлефанавала, Вы-б пачулі, як яна мне гаварыла аб усім гэтым! Касэту яна не знайшла! Нехта ціхенька... Прасіла аддаць — не аддалі! Згубілася! Праўда, яна ад гэтага была яшчэ шчасьлівейшая. Ня пры іх, зразумела. Сапраўды, Ваш прыезд — гэта нейкі зрух у сьвядомасьці нашага абывацеля. І галоўнае, як мне здаецца, тое, што Вы не займаліся палітыкай. Данчык сьпяваў!!!*

*«А маці яму дапамагала!!! — В.*

# МУЗЭЙ ЯКУБА КОЛАСА Ў ПІНКАВІЧАХ



*Наведнікі музэю Якуба Коласа (зьлева): Браніслаў Калоша, Лена Суднік, Кастусь Калоша. Фота Івана Калошы.*

У часе наведваньня Беларусі ў ліпені 1990 г. я азнаёміўся з Палесьсем і яго старадаўным горадам Пінскам. Брат Іван азнаёміў мяне з музэем Якуба Коласа ў вёсцы Пінкавічы, што каля Пінску. На будынку музэя ёсьць надпіс: «Тут з 1904 па 1906 год працаваў настаўнікам народны паэт Беларусі Якуб Колас».

Матар'ялы музэя разьмешчаныя ў чатырох пакоях. У першым пакоі сабраныя старадаўныя прылады працы й быту, ткацкія вырабы, вышываньне, вязаньне, нацыянальнае адзеньне паляшукоў. Тут можна азнаёміцца з умовамі жыцьця й працы паляшукоў у мінулым.

Наступныя пакоі знаёмяць наведнікаў з працай Якуба Коласа ў Пінкавічах. У музэі знаходзяцца цікавыя ўспаміны пра настаўніка Міцкевіча, яго цесную сувязь з народам. «Настаўнік Канстанцін Міцкевіч быў выключным чалавекам, — успамінае старэйшы жыхар Пінкавічаў Тамаш Бязручка. Ён часта заходзіў у сялянскія хаты, гутарыў зь сялянамі, цікавіўся іх жыцьцём». Ва ўспамінах Мікіты Козіча чытаем: «Канстанцін Міхайлавіч быў настаўнікам ня толькі для дзяцей, але й для дарослых. Ён угаварваў сялянаў, каб яны пасылалі ў школу як хлопчыкаў, так і дзяўчынак».

Другія матар'ялы музэя расказваюць, што Якуб Колас дапамагаў сялянам змагацца з панамі й чыноўнікамі. Ён напісаў мясцоваму пану Сьцірмунту пэтыцыю, дзе ставіліся катэгарычныя патрабаваньні: аддаць сялянам зямлю й азёры. Тут адбыўся першы арышт паэта.

У музэі знаходзяцца вершы, напісаныя Якубам Коласам у Пінкавічах, творы аб Палесьсі, пісьмы яго да паляшукоў.

Матар'ялы апошняга пакоя расказваюць аб Я. Коласе як пісьменьніку.

*(Працяг на 7-й б.)*

## Ф. СКАРЫНА НЯ МЕЎ...

*(Заканчэньне з 4-ій б.)*

скае знаходзілася ў канфлікце з суседзямі, вяло зацяжныя войны — і справядлівыя й ня вельмі. У такой сытуацыі лёгка было паддацца агульнаму ваяўнічаму настрою і супрацьставіць адну дзяржаву другой (скажам, Княства — Маскоўі або Польшчы) і тым самым падліць алею ў вогнішча. Аднак у прадмовах да выданьняў Скарыны такой варожасьці няма й блізка...»

Аўтар гаворыць пра канфлікты з Масковіяй. Масква нападала на Літву-Беларусь: паліла, грабіла, мардавала, нішчыла Полацак і Полацкую зямлю, і Беларусы павінны былі быць прыязныя да Масквы, ня варожыя — не бараніцца, не адбівацца. І пры ўсім гэтым ў Скарыны варожасьці да Масквы, дзе спаленыя былі ягоныя кнігі — твор ягонага жыцьця, ня было «і блізка». Аўтар «Запаветаў» прыпісвае Скарыну нейкую нявольніцкую псыхалёгію шматлікіх цяперашніх Беларусаў, якія асьцярагаюцца з уводжаньнем у Беларусі беларусізацыі, каб барані Божа не пакрыўдзіць Расейцаў і Палякаў. Тыя, а асабліва першыя, плююць ім у твар, зьневажаючы найбольшую іхную нацыянальную сьвятасьць — родную мову, а гэтыя ставяць усё маскоўскае вышэй за свае «вузканацыянальныя», як яны кажуць, інтарэсы і запэўніваюць, што ня маюць «і блізка» варожасьці да Масквы.

Вось такая нявольніцкая псыхалёгія прыпісваецца аўтарам «Запаветаў» і нашаму Францішку Скарыну.

З такіх-жа матываў некаторыя прычапляюць Скарыну маскоўскага «Георгія», адлюстроўваючы гэтым сваё вернападданства Маскве.

Ня быў Францішак Скарына, доктар сямі вызваленых навукаў і мэдыцыны, чалавек заходняй культуры, ані Георгіем, ані сымпатыкам Масквы, ані нявольнікам па натуры.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## МУЗЭЙ Я. КОЛАСА

*(Заканчэньне з 6-й б.)*

Тут можна азнаёміцца зь яго паэмамі «Новая зямля», «Сымон музыка», аповесьцямі «У палескай глушы» і «У глыбі Палесься», кніжкамі розных гадоў выданьня. Экспануюцца кнігі народнага паэта на польскай, чэшскай, нямецкай, ангельскай мовах, а таксама на мовах савецкіх рэспублік, што сьветчыць аб тым, што беларуская літаратура далёка выйшла за межы Беларусі.

Музэй амаль поўнасьцю закончаны, і шматлікіх наведнікаў сардэчна сустракае старэйшы настаўнік беларускае мовы й літаратуры Пінкавіцкай сярэдняй школы Іван Калоша. Ён ня толькі азнаямляе наведнікаў з працай Якуба Коласа, але й духовым багацьцем паляшукоў — іх звычаямі, песьнямі, народнымі вырабамі.

Літаратурны краязнаўчы музэй у Пінкавічах — гэта дзейсны сродак адраджэньня культурнай спадчыны нашага народу, прапаганды коласаўскіх твораў і жывога роднага матчынага слова.

У заснаваньні гэтага музэя вялікая заслуга настаўніка Івана Калошы, які самаахвярна ўлажыў шмат часу й працы ў плянаваньне. Яму належыцца ўдзячнасьць за гэта, як і ягоным многім памочнікам у наладжаньні музэя ды мясцовым уладам за дазвол і падтрымку.

**Кастусь Калоша з Амэрыкі**

## НА ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

Па тысячы даляраў ахвяравалі: Ул. і Л. Брылеўскія, А. Субота, К. Акула.

Склалі таксама ахвяры: Я. і Р. Мікусь, Я. і Э. Стасько, В. Міцкевіч.

Шчыра дзякуем.
Жыве Беларусь!

**Управа ФАБ**

*Ліст з Бацькаўшчыны*

## СЛАВА ІСУСУ ХРЫСТУ!

Вітаю Вас зь Менску, шаноўныя спадары, выдаўцы «Беларуса». Вельмі прыемна чытаць Ваша выданьне, тым больш, што ня ведаў аб яго існаваньні. Наогул, бальшавіцкія кіраўнікі замоўчваюць па сёньня Вашую сутнасьць, такую грунтоўную, бо нават «Васілёк» падаваўся, як рэч выключная.

Штомесячнік вельмі цікавы, прыгожы на мову, чаго бракуе камуністычным выданьням. Асабіста для мяне было прыемна даведацца аб рэлігійным жыцьці Беларусаў Амэрыкі й Канады, што цікава ім ня толькі палітыка. Пілігрымкі, вечарыны, выданьні малітоўнікаў і сьпеўнікаў — мусіць нязьдзейсная мара маіх суайчыньнікаў. Але Вам вядома, што справа адраджэньня мовы й культуры на Беларусі паволі, але крочыць наперад, а сёньня мову карыстаюць ня толькі ў жыцьці сьвецкім, але ў сьвятынях.

Маю 21 год, служу міністрантам і чытачом у касьцёле ў Менску, такім чынам намагаюся ўжываньня мовы ў набажэнствах. Але вельмі гэта цяжкая справа. Парафіяне, у асноўным, лічаць сябе Палякамі. Ксёндз згадзіўся правіць Імшу сьвятую толькі па нядзелях праз тыдзень. Асобнікаў зь песьнямі й парадкам набажэнства няма. Усё друкуем на мышыньцы ці пера пісваем. Нават ня маем Старога Тэстамэнту для карыстаньня. Жывем дзякуючы малітве. Вось у хуткім часе будзе лягчэй. Яго Прэсьвячэнства Біскуп Тадэвуш Кандрусевіч карыстаецца беларускай мовай у казаньнях падчас сваіх апостальскіх візытак па дыяцэзіі, абяцаў сьвятыя друкарню для перакладаў а. Уладзіслава Чарняўскага.

Але, на мой погляд, справа ня толькі ў мове Касьцёла ці Царквы. Душы людзей, моладзі моцна папсавала антычалавечая агітацыя ды прапаганда, што хвілінамі здаецца выправіць гэтае немагчыма. Адчыняюць усё больш і больш цэркваў і касьцёлаў, а ў набажэнствах удзельнічаюць у асноўным старушкі. Цяпер-жа няма аніякіх перашкодаў з боку дзяржавы! Наркаманія, прастытуцыя, грабяжы, забойствы — звычайная рэч штодзень. Больш таго, у апошні час зьявілася абыякавасьць пасьля Чарнобыля. А ці-ж гэта ня кара за грахі бацькоў? Ці-ж гэта не выпрабаваньне для жывучых? Крык аб малітве ператвараецца ў сьмех на вуснах. І таму я вырашыў стаць сьвятарам-манахам. А перад гэтым схадзіць са сваёй сяброўкай, вельмі чулым чалавекам, які дапамагае мне шмат у касьцёле, у Ерусалім, як зрабіла наша зямлячка сьвятая Еўфрасіньня Вялікая. Будзе час падумаць, асабліва аб канфэсійных колішніх непаразуменьнях на Беларусі. Як атрымаецца пілігрымка, ня ведаю, але малюся й маю надзею.

Вось такія зьвесткі з Вашае Бацькаўшчыны. Буду шукаць другія нумары «Беларуса», а таксама маліцца да Духа Сьвятога, каб заўсёды асьвячаў Вашую карысную працу. З Вамі Бог!

Менск, 6 верасьня 1990 г.

**Эдвард Гарлецкі**

## У НЬЮ-ЁРКУ ПРА БЕЛАСТОЦКУЮ КАНФЭРЭНЦЫЮ

13-га кастрычніка ў памешканьні Фундацыі Крэчэўскага адбыўся інфармацыйны вечар: сп. Валянтын Сельвесюк і др. Янка Запруднік, удзельнікі Беларускай канфэрэнцыі ў Беластоку й Белавежы (5-8.X), расказалі пра мэты гэтай нарады, ейных удзельнікаў зь Беласточчыны, БССР і эміграцыі, пастановы, да якіх нарада прыйшла, адказалі на пытаньні слухачоў.

*З жыцьця ў Канадзе*

## ПАСЕДЖАНЬНЕ ЎПРАВЫ СТАРШЫНЯЎ КАНАДЗКАЙ ЭТНАКУЛЬТУРНАЙ РАДЫ

Паседжаньне старшыняў Канадзкай Этнакультурнай Рады адбылося 27-28 кастрычніка ў Таронта. У сыботу на грамадзкім форуме прадстаўнікоў сяброў-арганізацыяў КЭР прамаўляла спня Барбара Мэк Дугал, фэдэральны міністар працадаўства й іміграцыі. Яна абвесьціла аб сваім пляне пабольшаньня іміграцыі ў Канаду да 250.000.

Сп-ня Элэйн Зэймба, міністар шматкультуралізму правінцыі Антарыё, гаварыла, што галоўнае ейнае заданьне — устанавіць роўныя магчымасьці працаўладкаваньня жанчын, людзей ня белае расы і інвалідаў. Людзі гэтыя — важная частка грамадзтва й мусяць мець роўныя правы, роўныя магчымасьці працаўладкоўвацца.

У нядзелю ўправа старшыняў КЭР праслухала прамову сп-ні Сыльвіі Маракле, прадстаўніка Антарыйскае Фэдэрацыі Індыйскіх Сяброўскіх Цэнтраў. Ейная разумная, патрыятычная й натхнёная прамова ўзварушыла мазгі й сэрцы слухачоў і здабыла прыхільнасьць да цяжкіх праблемаў тубыльцаў Канады.

Управа старшыняў КЭР прыняла рад рэзалюцыяў і пастановаў, што датычаць жыцьця розных этнакультурных групаў Канады.

Ад Беларусаў у канфэрэнцыі ўзялі ўдзел др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, які належыць да Канадзкай Этнакультурнай Рады, а на грамадзкім форуме, апрача старшыні ККБК, прымалі ўдзел: сп. Мікола Ганько, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады, і сп. Алесь Палескі, сябра ЗБК.

**Р. Жук-Грышкевіч**

## БАГАСЛУЖБА Ў МАНРЭАЛІ

Манрэальская парафія Сьв. Спаса Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы запрасіла Архіепіскапа Мікалая на першую багаслужбу пасьля таго як яна зарганізавалася. 20 кастрычніка сёлета Ўладыка Мікалай адслужыў сьв. Літургію ў украінскай праваслаўнай царкве Сьв. Пакравы ў Розмоньце, раёне Манрэалю. Уладыку Мікалаю саслужылі кіраўнічы парафіі а. Юрый і даўно ведамы Ўладыку, яшчэ з Садбуры, а. Епіфаній. Між іншага, а. Епіфанію ўжо 93 гады жыцьця. Тут варта зазначыць, што Дзімітрыос І, Усяленскі Канстантынопальскі Патрыярх, томасам зь 1-га красавіка 1990 г., прызнаў афіцыяльна Ўкраінскую Праваслаўную Царкву ў Канадзе за кананічную й прыняў яе сьвятарства на чале зь ейнымі епіскапамі ў малітоўнае яднаньне.

Пасьля багаслужбы ўсе вернікі, прысутныя на сьв. Літургіі, мелі традыцыйны абед. На абедзе шмат хто зь вернікаў выступаў з прамовай. У часе абеду старшыня парафіі Сьв. Спаса сп. Анатоль Храноўскі сабраў на дапамогу ахвярам Чарнобыля 198 даляраў.

**Вернік**

## НА ДЗЯДЫ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

Даў Бог 2-4 лістапада, у пятніцу, сыботу й нядзелю — на Дзяды — спакойнае, цёплае, сонечнае надвор'е. У сыботу Беларускі могільнік царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Іст-Брансьвіку выглядаў сьвяточна-прыбраны: зеленела дагледжаная траўка, квітнелі пры крыжох і помніках хрызантэмы. Дзяды ў магілах чакалі на нас і нашыя малітвы.

У сыботу ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку багаслужба была даўжэйшая, урачыстая, з цудоўным пяяньнем хору. Слухалі ў задуменьні напеваў вернікі, плакалі нахілюўшы галовы, пры сьвятых іконах на аналоях, мігатліва ірдзелі васковыя сьвечкі. Спадарыні Сtагановіч старэйшае, мае звычайнае ў царкве суседкі, ня было... Занядужала... Пачалася паніхіда за супакой душаў Дзядоў. Доўгі сьпіс імёнаў цягнуўся ў бясконечнасьць. «Вечная памяць» Вам, нашыя Дарагія, нашыя Дзяды.

4-га лістапада ў сонечную й цёплую, быццам летнюю нядзельку, пасьля сьв. Літургіі й паніхіды, усе мы дружнай беларускай сямейкай паехалі на могільнік адведаць нашых дарагіх нябожчыкаў, супольна памаліцца над іхнімі магіламі.

І гэтак ад магілы да магілы падыходзілі ўсе дружна за а. Васілём Андрэюком маліцца і сьвяньціць магілу сьвятой вадой. Яшчэ ў царкве ў часе багаслужбы а. Васіль у сваёй казані гаварыў аб тым, як важна памятаць і маліцца за супакой душ тых, што адыйшлі ў вечнасьць. Бо-ж і мы таксама адыйдзем, і мы ўсе памрэм, і за нас будуць маліцца ды будуць нас памятаць, так як мы памятаем тых, што адыйшлі на той сьвет перад намі.

І ў царкве й на могілках усё было зроблена па-людзку й па-божаму. Я дзякавала людзям і Богу, што магла быць у гэты дзень сярод сваіх на магіле майго мужа сьв. пам. Вінцэнта Жук-Грышкевіча і разам зь людзьмі маліцца за супакой Ягонае душы.

Аднак застаўся ў мяне й цень рашчараваньня, якім не магу не падзяліцца з вамі. На Беларускім могільніку ёсьць прыгожы манумэнт, узьнесены ў памяць Беларускіх Гэрояў, тым, што памерлі, каб жыла Беларусь.

Праўда, прыехаўшы на могільнік, а. Васіль падыйшоў да помніка й стаў маліцца. Стала за ім я, падскочыла спня Ала Орса-Рамана й іншыя людзі й пачалі пяяць да багаслужбы: «Сьвяты Божа, Сьвяты моцны, Сьвяты несьмяротны, памілуй нас». Багаслужба была кароткай, такая, як над кожнай магілай...

А я ўяўляла, што на Дзяды над магілай Гэрояў Беларусі зашумяць бел-чырвона-белыя сьцягі, што ўсе беларускія арганізацыі прынясуць ім вянкі й кветкі, што хор ім засьпявае «Сьпі пад куранам гэрояў»... Што ля помніка адбудзецца, апрача малітвы, і мітынг, на якім прамоўцы скажуць: «Мы вашых павек на забудзем магілаў!», дзе-бы гэтыя магілы ні былі, у Іст-Брансьвіку, у Курапатах, на Калыме, у Сібіры, Воршы ці пад Монтэ-Касына...

Бо-ж яны, беларускія змагары, за часамі свайго пакутнага жыцьця, ня раз мо думалі, кажучы словамі Ларысы Геніюш:

«Няхай разгорне сваё крыльлі,
як сторож вечнага жыцьця,
хай зашуміць, хоць на магіле
мне бел-чырвона-белы сьцяг.»

**Раіса-Жук-Грышкевіч**

# ПЁТРА МЕЛЬЯНОВІЧ

**(10.IX.1914-5.XI.1990)**



Сьв. пам. Пётра Мельяновіч нарадзіўся ў вёсцы Азярніца Лунінецкага павету, дзе займаўся земляробствам. Да гэтага набыў прафэсію будаўніка й столяра. Пад Саветамі сям'я Мельяновічаў прасьледавалася як кулакі, палавіна сям'і была выбітая, а іншых выслалі ў Сібір. Сам Пётра выратаваўся, дзякуючы абставінам.

У 1944 годзе, перад наступам Саветаў, Пётра зь сям'ёй выехаў у Нямеччыну, дзе жыў у лягерох ДП да выезду ў Злучаныя Штаты ў жніўні 1950 году. Я помню яго зь беларускага лягеру Віндышбэргердорф. Бліжэй пазнаў яго пасьля 1958 году, калі перасяліўся ў Нью-Ёрк. Тады ў Нью-Ёрку беларускае жыцьцё было вельмі актыўнае, у ім Пётра Мельяновіч быў адным з найбольш дзейных. Належаў да царкоўнага прыходу, да БАЗА. Усе цанілі яго як грамадзкага працаўніка і выдатнага майстра, чалавека з залатымі рукамі. З набыцьцём царкоўнага будынку на 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне (дзе ён належаў да камітэту набыцьця будынку) Пётра шмат папрацаваў пры ўладжаньні будынку, а пазьней узьнёс выдатны іканастас. У шмат каго рабіў прыватна — уладжваў, правіў, дапамагаў плянаваць.

На жаль, духоўныя й сьвецкія лідэры таго часу аказаліся не на ўзроўні: пачаліся непаразуменьні, суды за царкву, і гэта скончылася разрывам еднасьці. Наша грамада, што сёньня ў Рычманд-Гіле, змушаная была пакінуць 401 Атлянтык Авэню і сьпярша заснавала Беларуска-Амэрыканскага Аб'яднаньне, а пасьля суду за царкву (1967-68 гг.) арганізавала свой царкоўны прыход. Калі ў 1968 годзе пастанавілі будаваць сваю царкву, Пётра Мельяновіч быў адным з тых, хто выявіў шмат намаганьняў, каб гэтую ідэю рэалізаваць. У яго каля хаты зьбіраўся матар'ял на будову царквы. Сам ён быў у царкоўнай управе скарбнікам, якім застаўся да канца жыцьця. Браў найактыўнейшы ўдзел у плянаваньні будынку, пераконваў іншых у патрэбе пабудовы царквы.

У 1969 годзе арганізаваўся прыход Амэрыканска-Беларускай Незалежнай Праваслаўнай Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага на 104-29 Атлянтык Авэню ў Рычманд-Гіле з а. Сьвятаславам Каўшом як настаяцелем. Пачаліся Божыя службы. Быў куплены пляц пад царкву, 21 чэрвеня 1970 г. адбылося высьвячэньне месца пад пабудову царквы. Пачалася будова. Частку работаў выконвала будаўляная кампанія (падмурак, сьцены), рэшту рабілі самі прыхаджане. Сьв. пам. Пётра Мельяновіч амаль кожны дзень працаваў на будоўлі або ёю кіраваў. Як столяр, ён рабіў і вёў усю работу ўнутры будынку: у царкве, у залі, у памешканьні, што каля царквы. Як пасьля казаў: «Няма тут цьвіка, якога-б я не загнаў».

Багаслужбы ў новазбудаванай царкве пачаліся 29 кастрычніка 1972 году. Але ў будынку й далей было шмат работы, якую працягваў Пётра сам або зь кімсь іншым. Ад 24.VIII.78 да 20.IX.78 працаваў над новым іканастасам. Прыгожы іканастас быў поўнасьцяй выканчаны да 24.III.79. Здольныя рукі Пётры Мельяновіча зрабілі шмат драўляных і мэталёвых рэчаў для царквы (аналоі, футляры для іконаў, сямісьвечнік ды інш).

Нябожчык належаў да царкоўнае ўправы 23 гады, выконваў абавязкі скарбніка, дбаў, каб папоўніць касу і каб кожны грош ня быў без патрэбы выдаткаваны. Сёньня мы ўсе аплакваем ягоны адыход як незаменнага чалавека ў нашым прыходзе, у нашай грамадзе.

Быў ён чалавекам пабожным, любіў царкву, быў сьціплым, ніколі не хваліўся, усё рабіў ад сэрца, ціха. У грамадзе быў дружным, стараўся разам працаваць і разам весяліцца, калі на гэта дазваляў час. Быў патрыётам: беларускія патрэбы стаялі ў яго пасьля царквы на першым месцы. Мы ведалі Пётру Мельяновіча як добрага мужа, бацьку, галаву прыгожае сям'і (жонка Ганна і дзеці: Каця, Васіль і Вольга).

Сьв. пам. Пётра Мельяновіч адыйшоў неспадзявана. 4-га лістапада быў у царкве — адзначаліся 18-я ўгодкі першай багаслужбы ў нашай сьвятыні. Тут занямог, быў адвезены ў шпіталь, дзе пасьля поўначы памёр ад удару сэрца.

На паніхіду, якую адслужыў у пахавальны доме Кернса 7-га лістапада ўвечары а. ігумен Грэгоры, прыйшло больш за сотню людзей, не мясьціліся ў залі. Прыгожа сьпяваў павялічаны хор, якім кіраваў сп. Сымон Жамойда. Вакол труны было безьліч вянкоў і букетаў.

Пахавалі нябожчыка 8-га лістапада. У царкве, якую ён будаваў адбылася багаслужба, на якую, хоць гэта быў будзённы дзень, зыйшлося 70 асобаў. З царквы цела было адвезенае на беларускі могільнік прыходу Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, дзе каля труны, накрытай бел-чырвона-белым сьцягам, сабралася каля 80 асобаў. Апошняе слова над дамавінай сказаў сп. Кастусь Мерляк. Хор прасьпяваў жалобны марш «Сьпі пад курганам гэроя».

Памінкі адбыліся ў саўтрывэрскім Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры. Духоўныя айцы, сям'я, сябры й знаёмыя ўспаміналі добрыя ўчынкі пакойнага. Ад прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле разьвітальнае слова сказаў аўтар гэтых радкоў, а да маладых прамаўляў па-ангельску сп. К. Мерляк.

Гэтак правялі ў вечнасьць сьв. пам. Пётру Мельяновіча сям'я, прыхаджане, прыяцелі й знаёмыя.

Хай Бог уселіць душу яго на ўлоньні Аўраамавым. Вечная памяць.

**Васіль Шчэцька**

**Ш-У-К-А-Ю-Ц-Ь!**

**БАРТАШЭВІЧА Кандрата Юр'евіча**, роднага брата майго дзеда па маці (у яго была жонка з Расеі і два сыны), шукае **Мікола Таранда**, 230003 г. Гродна, вул. Мендзялеева 39/1, кв. 49.

## НА ФОНД БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЯПРАГРАМЫ Ў ПЭРЦЕ (АЎСТРАЛІЯ)

| | |
|---|---|
| А. Міцкевіч | аўстр.д. 20 |
| М. Скабей | 69 |
| Я. Запруднік | ам.д. 20 |

Жыве Беларусь!
З сардэчнай падзякай

**Міхась Раецкі**

# СЬВ. † ПАМ. ПЁТРА МЕЛЬЯНОВІЧ

Нарадзіўся 10 верасьня 1914 г. ў в. Азярніца Лунінецкага павету. Доўгагадовы сябра царкоўнае ўправы прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле, Н.Ё., сябра Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку. Адыйшоў на вечны супачынак 5 лістапада 1990 г. і пахаваны 8 лістапада на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры, Н.Дж. Сям'і нябожчыка, жонцы Ганьне, дзецям Каці, Васілю, Вользе і далейшай сям'і найглыбейшыя спачуваньні.

Вечная памяць.

**Прыхаджане й царкоўная ўправа прыходу Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле і ўправа Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку**

# СЬВ.†ПАМ. ЯН КАЛОША



17 верасьня 1990 г. на 78-м годзе жыцьця, пасьля цяжкой хваробы, адыйшоў на вечны спачынак у горадзе Пуэблё, штат Калярада, сьветлай памяці Ян Калоша.

Нябожчык паходзіў зь вёскі Лань каля гораду Нясьвіжа. У Нясьвіжы закончыў настаўніцкую сэмінарыю ў 1936 г. і перад вайною, пасьля вайсковае службы, працаваў настаўнікам на Віленшчыне. Пасьля верасьня 1939 г. быў выкладчыкам сярэдняй школы. Падчас нямецкай акупацыі спачатку быў настаўнікам, а потым — работнікам беларускай адміністрацыі. У 1944 годзе давялося яму эміграваць у Нямеччыну, дзе пасьля вайны закончыў лясны факультэт Украінскага Тэхнічна-Гаспадарчага Інстытуту ў Рэгензбурзе, атрымаўшы званьне ляснога інжынера.

У 1949 годзе зь сям'ёю эміграваў у Злучаныя Штаты, дзе спачатку працаваў лясьнікам у штаце Орэган, а потым, перакваліфікаваўшыся, дванцаць гадоў быў мікрабіёлягам у лябараторыі ў горадзе Пуэблё, штат Калярада. У 1977 годзе выйшаў на пэнсію. Пакінуў у вялікім смутку жонку Ірэну і сына Мішу.

Ува ўсім сваім жыцьці быў глыбока веруючым праваслаўным хрысьціянінам, сьведамым Беларусам, гарачым патрыётам свае Бацькаўшчыны, добрым чалавекам, прыкладным мужам і бацькам. Увесь час вельмі дбаў пра сваю сям'ю. Дзеля здароўя сына пасяліўся ў штаце Калярада, дзе пражыў рэшту свайго жыцьця.

У часе нямецкай акупацыі Беларусі, у найбольш небясьпечны й цяжкі час свайго жыцьця, Янка Калоша сьмела змагаўся за правы Беларусаў у сваёй Бацькаўшчыне, нараз наражаючы сваё жыцьцё на згубу. Многім памагаў у бядзе, быў справядлівым і добрым сябрам кажнага, каго ведаў і паважаў.

Нялёгкае жыцьцё і турботы пра сям'ю не заўсёды спрыялі яму быць актыўным у грамадзкім жыцьці. Аднак, увесь свой век пражыў верным сынам Беларусі й ейнага пакутнага народу.

Няхай яму пухам будзе амэрыканская зямелька, а родныя беларускія гоні, якім аддаў найлепшы пэрыяд свайго жыцьця, хай захваюць аб ім вечную памяць.

Кастрычнік 1990 г.

**Сябры**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| В. і Махнач | ам.д. 100 |
| А. Лашук | 100 |
| Сям'я Кіпеляў замест вянка на магілу сп. П. Мельяновіча | 100 |
| С. Карніловіч замест кветак на магілу с.п. П. Мельяновіча | 50 |
| Прыход БАПЦ у Клíўлендзе замест кветак на магілу с.п. П. Мельяновіча | 50 |
| Г. Сянькевіч | 50 |
| К. Акула | 50 |
| К. Акула выдаў сваіх на рассылку «Беларуса» ў 1990 г. 85 дал., якія ахвяруе на выдавецтва газэты | |
| М. Васілеўская | 30 |
| М. Калядка | 30 |
| І. П. Лёхэр | 20 |
| А. Кажаневіч | анг. ф. 20 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Р. Жук-Грышкевіч | ам.д. 100 |
| А. Кіпель | 100 |
| А. Субота | 50 |
| А. С. | 30 |
| Л. Шурак | 30 |
| В. Бычкоўскі | 20 |
| Ю. Арцюшэнка | 20 |
| М. Кунцэвіч | 20 |
| В. Бурдзь | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| В. Стома | 20 |
| П. Кажура | 20 |
| А. П. Непейн | 20 |
| А. Балкоўскі | 20 |
| М. Каранеўскі | 20 |
| У. Сьліўка | 20 |
| Л. Стагановіч | 20 |
| Ю. Нэруш | 5 |
| Усяго | 555 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Аўстраліі сп. У. Акавітага:*

| | |
|---|---|
| а. М. Бурнос | ам.д. 50 |
| Е. Трысмакова | 40 |
| У. Акавіты | 40 |
| П. Пачопка | 40 |
| М. Костышын | 35 |
| А. Руткевіч | 30 |
| А. Садоўскі | 30 |
| Я. Ролсан | 30 |
| В. Зеленеўскі | 30 |
| В. Міленцэвіч | 30 |
| Усяго | 355 |

Усім ахвярадаўцам, падпісчыкам і прадстаўнікам шчыры дзякуй!

**Выдавецтва «Беларуса»**

**НОВАЯ РАСЦЭНКА «БЕЛАРУСА».** У наступным годзе падпіска на «Беларуса» будзе 25 дал. на год, цана паасобнага нумару — 2,50 д. За калядна-навагодняе індывідуальнае прывітаньне — 20 дал., за прывітаньне ад арганізацыяў (у рамках) — 50 дал.